ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 9 (2535)
ПЯТНІЦА
26
лютага 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

Кампартыя Беларусі, працоўныя рэспублікі высока цэняць працу мастацкай інтэлігенцыі і вераць, што пісьменнікі, мастакі, кампазітары, работнікі тэатра і кіно, усе дзеячы культуры будуць і надалей ісці ў першых радах барацьбітоў за камунізм.

(Са справаздачнага даклада ЦК КПБ XXVII з'езду Камуністычнай партыі Беларусі)



«Бальшавік». Гэтае новае палатно М. Савіцкага — адна з цікавейшых работ на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы, якая адкрыта ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# НАЯ ПАРТЫЯ БЕЛАРУСІ ДЭМАНСТРУЕ НЕПАХІСНУЮ ЛЕТАРСКАГА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМУ, БЫЛА, ЁСЦЬ АПОРАЙ ЯЕ ЛЕНІНСКАГА ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА

*(З пісьма XXVII з'езда Камуністычнай партыі Беларусі Цэнтральнаму Камітэту КПСС).*

## ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

**Мы, дэлегаты XXVII з'езда Камуністычнай партыі Беларусі, ад імя чатырохсоттрыццацітысячнай арміі камуністаў рэспублікі і ўсяго беларускага народа горача вітаем баявы штаб нашай слаўнай ленінскай партыі—Цэнтральны Камітэт КПСС—і выказваем пачуцці бязмежнай адданасці справе партыі, справе вялікага Леніна.**

**Наш з'езд праходзіць у дні, калі Камуністычная партыя і ўсе савецкія людзі рыхтуюцца дастойна сустрэць XXIV з'езд КПСС. Ідучы насустрач гэтай знамянальнай падзеі, мы рады далажыць Цэнтральнаму Камітэту, што, выконваючы Дырэктывы XXIII з'езда партыі і рашэнні Пленумаў ЦК КПСС, працоўныя рэспублікі пад кіраўніцтвам КП Беларусі дабіліся новых буйных дасягненняў у развіцці эканомікі і культуры.**

**На працягу восьмай пяцігодкі прамысловасць Беларусі працягвала развівацца высокімі тэмпамі, уведзены ў строй новыя заводы і камбінаты, значная работа праведзена па рэканструкцыі і мадэрнізацыі прадпрыемстваў вядучых галін. У выніку выпуск прамысловай прадукцыі за пяцігоддзе павялічыўся ў 1,8 раза, палепшыліся ўсе гаспадарча-эканамічныя паказчыкі прамысловай вытворчасці.**

**На зусім іншы якасны ўзровень выйшла і наша сельская гаспадарка. Перавыканаўшы заданні пяцігодкі па продажу асноўных сельскагаспадарчых прадуктаў, калгасы і саўгасы рэспублікі стварылі неабходныя перадумовы для развіцця больш высокімі тэмпамі гэтай важнейшай галіны народнай гаспадаркі.**

**На аснове прынятых ЦК КПСС і Савецкім урадам рашэнняў і няспыннага павелічэння нацыянальнага даходу забяспечаны значны рост матэрыяльнага дабрабыту працоўных, усё больш поўна задавальняюцца іх матэрыяльныя і культурныя патрэбнасці.**

**Сёння ў Беларусі, як і ва ўсёй краіне, ідзе гіганцкае будаўніцтва. Прыгажэюць гарады і вёскі, узводзяцца новыя карпусы заводаў, механізаваныя жывёлагадоўчыя комплексы, жылыя дамы і школы, палацы культуры і бытавыя прадпрыемствы. Беларускі народ глыбока ўсведамляе, што ў яго дасягненнях закладзена велізарная доля працы народаў-братоў, аб'яднаных непарушнымі вузамі дружбы ў вялікай сям'і Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Поўны пачуцця ўдзячнасці ён уносіць свой дастойны ўклад у агульную справу барацьбы за камунізм.**

**Велізарныя поспехі Савецкага Саюза ў будаўніцтве новага жыцця ёсць вынік паслядоўнага ажыццяўлення ўзятага партыяй курсу на ўмацаванне навуковага падыходу да кіраўніцтва народнай гаспадаркай, усталяванне ленінскага стылю ў рабоце партыі, яе клопатаў аб павышэнні актыўнасці працоўных у кіраванні справамі нашай сацыялістычнай дзяржавы.**

**Дасягнутыя поспехі выклікаюць у камуністаў і ўсіх працоўных рэспублікі пачуццё гордасці за нашу партыю, сацыялістычную Радзіму і натхняюць савецкіх людзей на новыя здзяйсненні. Разам з тым, як гэтага патрабуе партыя, мы крытычна ацэньваем вынікі сваёй працы, атрымліваем урокі з недахопаў у практыцы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, вызначаем шляхі павышэння эфектыўнасці грамадскай вытворчасці, намячаем новыя рубяжы.**

**Усебакова абмеркаваўшы праект Дырэктыў XXIV з'езда КПСС па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады, мы аднадушна адабраем велічную праграму партыі па далейшым магутным уздыме эканомікі, павышэнні дабрабыту народа і запэўніваем ЦК КПСС, што камуністы і ўсе працоўныя рэспублікі зробяць усё для таго, каб ажыццявіць планы партыі.**

**Мы цалкам і поўнасцю падтрымліваем і адабраем знешнюю палітыку Цэнтральнага Камітэта КПСС і Савецкага ўрада, накіраваную на ўтаймаванне міжнароднага імперыялізму, яго падкопаў на Блізкім Усходзе, спыненне амерыканскай агрэсіі ў Індакітаі, на захаванне міру і бяспекі народаў.**

**Камуністы, усе працоўныя Беларусі, як і ўвесь савецкі народ, высока цэняць уклад Цэнтральнага Камітэта КПСС ва ўмацаванне адзінства і згуртаванасці сацыялістычнай садружнасці і ўсяго міжнароднага камуністычнага руху. У гэтым адзінстве яны бачаць залог новых буйных перамог камунізма на фронце барацьбы за рэвалюцыйнае абнаўленне свету.**

**Ідучы насустрач XXIV з'езду КПСС, Камуністычная партыя Беларусі дэманструе непахісную вернасць ідэям марксізма-ленінізма і пралетарскага інтэрнацыяналізму, была, ёсць і будзе баявым атрадам КПСС, надзейнай апорай яе ленінскага Цэнтральнага Камітэта.**

**Слава Камуністычнай партыі Савецкага Саюза — натхніцелю і арганізатару ўсіх нашых перамог!**

**Няхай жыве ленінскі Цэнтральны Камітэт КПСС!**

**Няхай жыве непарушнае адзінства партыі і народа!**

**Няхай жыве камунізм!**

**XXVII З'ЕЗД КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ**

# ПА ЖЫЦЦЁВЫМ ЛЕНІНСКІМ ШЛЯХУ

**Прамова Максіма ТАНКА, першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Таварышы! XXVII з'езд Кампартыі Беларусі праходзіць у дні велізарнага працоўнага ўздыму, выкліканага падрыхтоўкай да XXIV з'езда КПСС. Аб гэтым гавораць зводкі, тэлеграмы, рапарты, якія паступаюць з заводаў і фабрык, з калгасаў і навабудоўляў і нават з Космасу. Аб гэтым пераканаўча сведчаць і статыстычныя лічбы, якія адлюстроўваюць няспынны рост эканомікі нашай краіны і веліч планаў на будучыню.

Зразумела, што ўсё гэта кожнага з нас і радуе, і натхняе на яшчэ больш слаўныя працоўныя подзвігі, бо мы знаем, што рост нашай эканомікі, навукі, культуры з'яўляецца велізарнейшым укладам у справу стварэння мэтэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма, у справу ўмацавання еднасці народаў краін сацыялізма і ў справу вызваленчай барацьбы народаў супраць імперыялістаў, барацьбы, якая немінуча закончыцца перамогай сіл міру, справядлівасці і свабоды над сіламі рэакцыі.

Гады, якія мінулі пасля другой сусветнай вайны, прынята лічыць мірнымі, хоць мы не ведаем ніводнага дня, каб у гэтыя так званыя мірныя гады ў розных кутках зямлі не палыхала крывавае полымя вайны. Асабліва подых гэтых трывожных падзей адчуваецца на фронце ідэалагічным, на якім ніколі не было ні перамір'я, ні зацішша. І гэта невыпадкова. Цяпер нават самыя агрэсіўныя імперыялістычныя сілы змушаны ўлічваць тое, што ў адкрытым канфлікце з магутным лагерам сацыялізма яны не могуць разлічваць на нейкую перамогу. І таму пры дапамозе ідэалагічных дыверсій намагаюцца нейтралізаваць ці абмежаваць уздзеянне на мільёны людзей ва ўсім свеце ўсеперамагаючага вучэння марксізма-ленінізма, нашага рэвалюцыйнага мастацтва і літаратуры.

У канцы студзеня гэтага года мне давялося ў складзе дэлегацыі Саюза пісьменнікаў СССР быць у Англіі, сустракацца са студэнтамі коледжаў, з прадстаўнікамі розных арганізацый, удзельнічаць у літаратурных спрэчках і бачыць, якую агідную прапаганду супраць усяго прагрэсіўнага, а ў першую чаргу супраць нас, вядуць ідэалагічныя збраяносцы і найміты імперыялізму. Дзеля распаўсюджвання сваёй хлусні і дэзінфармацыі, сляпой нянавісці да нас, яны мабілізавалі ўсе свае сродкі прапаганды. Над Лонданам, як вядома, часта бывае туман. Але куды больш небяспечны туман, які распаўсюджваюць сёння іх тэлебачанне, радыё і друк. Бо ён і днём і ноччу беспрасветна вісіць над Брытаніяй, атручваючы жыццё і псіхіку мільёнаў. Зараз там да гэтай чорнай работы падключылі зграі сіяністаў, рознай масці нацыяналістаў, розных псіхапатаў, як Тарсіс, здраднікаў, як Кузняцоў, і іншых маральных банкрутаў. Падымаецца шуміха вакол сфабрыкаванай імперыялістычнай разведкай фальшыўкі — так званых «успамінаў Хрушчова». І асабліва наглядным праяўленнем гэтай палітыкі антыкамунізма з'яўляецца фарс з прысуджэннем Нобелеўскай прэміі Салжаніцыну. Бо вядома, што не мастацкія вартасці твораў Салжаніцына, а брудныя махінацыі розных палітычных спекулянтаў, аб «Свабодную Еўропу», Бі-бі-сі і «Голас Амерыкі».

Зразумела, што гэта хлусня, якая льецца з усіх каналаў інфармацыі на Захадзе, мае яшчэ на мэце адцягнуць увагу мільёнаў працоўных і ўсёй грамадскасці ад крызісных з'яў, якія мы наглядалі ў самой Англіі і, асабліва, ва Уэльсе, дзе ў гэтым буйнейшым еўрапейскім вугальным басейне з 45 шахт сёння працуе толькі 5. Гэта дэзінфармацыя яшчэ мае на мэце заглушыць адгалоскі тых класавых баёў, якія з новай сілай даюць аб сабе знаць у Ірландыі, у забастоўках электрыкаў, паштавікоў, у шматтысячных дэманстрацыях супраць антырабочага чым гавораць сёння многія пісьменнікі і культурныя дзеячы на Захадзе, адыгралі незайздросную ролю ў прысуджэнні яму Нобелеўскай прэміі.

Калісьці ў аднаго старажытнага мудраца спыталі, чаго ён хацеў бы пажадаць сваім ворагам. Ён адказаў: я хацеў бы, каб яны крыху паразумнелі. Ці не пара было б крыху паразумнець і членам Нобелеўскага камітэта, якія ўжо не раз ускладалі лаўровыя вянкі зусім не на тыя галовы, якія заслугоўвалі ўзнагароды.

І ўсё ж, не зважаючы на палітыку антыкамунізма, якую праводзіць гэты адзін з самых рэакцыйных пасляваенных урадаў (такую ацэнку прыходзілася чуць ад многіх англічан), у народзе мы ўсюды сустракалі поўнае разуменне і пачуццё шчырай дружбы да Савецкага Саюза. Простыя людзі Англіі ніколі не забудуць, якую ролю адыграла наша краіна ў разгроме фашысцкіх гітлераўскіх полчышч і ў выратаванні іх жыцця. Мы бачылі, як людзі цягнуцца да праўды. Толькі ў свеце зманапалізаваных бізнесам сродкаў інфармацыі, у джунглях рэкламы, сексу, гвалту, нажывы не так лёгка знайсці гэту праўду. Веданне савецкай літаратуры на Захадзе часцей за ўсё абрываецца на дваццатых гадах, а з сучаснай літаратуры, за рэдкім выняткам, чытачоў пераважна знаёмяць з імёнамі тых пісьменнікаў, якія праславілі сябе або ўгоднай ім сваёй творчасцю, або склалі свой подпіс пад нейкім пісьмом, хоць фармальна і адрасаваным нашым інстанцыям, але больш разлічаным на біля, адгалоскі ад трывожных падзей у Індакітаі і на Блізкім Усходзе. Усё гэта яшчэ раз напамінае нам аб тым, што мы павінны пільна сачыць за гэтымі і іншымі небяспечнымі варожымі інтрыгамі, па-ленінску быць пільнымі і больш загартоўваць сваю ідэйную зброю, актывізуючы і ўзмацняючы наступальную сілу нашай літаратуры.

Беларуская літаратура — адзін з баявых атрадаў нашай шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Дзякуючы няспынным клопатам партыі, яна за гады Савецкай улады дасягнула нябачнага росту і росквіту. За апошнія гады значна вырасла колькасць твораў беларускіх пісьменнікаў, перакладзеных на рускую мову, на мовы братніх народаў Савецкага Саюза, а таксама і на замежныя мовы.

Мы ведаем, што ў гэтым заслуга не толькі нашых майстроў слова, а, перш за ўсё, заслуга нашага народа, які, пад кіраўніцтвам партыі, сваім гераізмам у гады Вялікай Айчыннай вайны, сваёй стваральнай працай у мірны час дабіўся велізарнейшых поспехаў ва ўсіх галінах эканомікі і культуры. Зразумела, што і літаратура, якая адлюстроўвае гэты слаўны, пройдзены нашым народам шлях, яго думы і імкненні, заўсёды будзе прыцягваць да сябе ўвагу і любоў шматлікіх чытачоў, як у нас, так і ў зарубежных краінах. Бо вартасць кожнай літаратуры — у праўдзівым, рэалістычным адлюстраванні жыцця народа. Прыкладам гэтага можа служыць

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## ПЛЕНУМ ЦК КП БЕЛАРУСІ

**24 лютага г. г. адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, выбранага XXVII з'ездам КПБ.**

**Пленум выбраў бюро ЦК КП Беларусі ў наступным саставе:**

**ЧЛЕНЫ БЮРО ЦК КПБ:**

**Кісялёў Ц. Я., Кляцкоў Л. Г., Кузьмін А. Т., Лабанок У. Е., Машэраў П. М., Міцкевіч У. Ф., Палякоў І. Я., Полазаў М. Н., Прытыцкі С. О., Смірноў А. А., Сурганаў Ф. А.**

**КАНДЫДАТЫ Ў ЧЛЕНЫ БЮРО ЦК КПБ:**

**Траццяк І. М., Падрэз У. І.**

**Пленум выбраў сакратарыят ЦК КПБ. Першым сакратаром ЦК КПБ выбран тав. МАШЭРАЎ П. М., другім сакратаром выбран тав. СУРГАНАЎ Ф. А., сакратарамі ЦК КПБ выбраны тт. КУЗЬМІН А. Т., МІЦКЕВІЧ У. Ф., СМІРНОЎ А. А.**

**Пленум зацвердзіў загадчыкаў аддзелаў ЦК КПБ: арганізацыйна-партыйнай работы—тав. Кляцкова Л. Г.; прапаганды і агітацыі — тав. Шабашова С. М.; навукі і навучальных устаноў — тав. Караткевіча А. Ц.; культуры — тав. Марцэлева С. В.; адміністрацыйных органаў — тав. Жабіцкага Г. М.; цяжкай прамысловасці і транспарту — тав. Мікуловіча Я. А.; хімічнай і лёгкай прамысловасці — тав. Нагібовіча Л. Н.; харчовай прамысловасці — тав. Адамовіча П. С.; будаўніцтва і гарадской гаспадаркі— тав. Еўтуха У. Г.; сельскагаспадарчага — тав. Сухій М. А.; гандлю і бытавога абслугоўвання — тав. Сташэнкава М. А.; агульнага — тав. Крукава В. Я.; кіраўніком спраў ЦК КПБ —тав. Машкова Г. М.**

**Старшынёй парткамісіі пры ЦК КПБ зацверджан тав. Каралёў Р. Я.**

**Пленум зацвердзіў рэдактарамі газет: «Звязда» — тав. Дзяльца М. І.; «Советская Белоруссия» — тав. Зініна А. К.; «Сельская газета» — тав. Мацвеева У. В.; часопіса «Коммунист Белоруссии» — тав. Качана Я. І.**

## У РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ КП БЕЛАРУСІ

**24 лютага г. г. адбылося пасяджэнне Рэвізійнай камісіі КП Беларусі. Старшынёй Рэвізійнай каміссіі выбран тав. Макараў І. М.**



М. ДАНЦЫГ. Рабочы.

Алег БЕЛАВУСАЎ

# СУЧАСНІК,

ЯК ЧАСТА ў крытычных артыкулах, рэцэнзіях на выстаўкі ўжываем мы словы «ўнутраны свет сучасніка», называем яго «няпростым», «складаным», «багатым», знаходзім яшчэ дзесяткі эпітэтаў, разважаем пра тое, ці здолеў мастак раскрыць яго, данесці да гледача. Мы аперыруем гэтым словазлучэннем так, быццам яно з'яўляецца апрабіраваным і выверанным мастацтвазнаўчым тэрмінам. А між тым, проста названыя, гэтыя словы нічога не тлумачаць, іх шматзначнасць уяўная, бо ўнутраны свет чалавека ў кожным асобным выпадку мае дзесяткі самых нечаканых паваротаў, сотні найтанчэйшых нюансаў і таму ў кожным асобным выпадку заслугоўвае скрупулёзнага даследавання, удумлівага асэнсавання.

Кожны мастак, якую б задачу ён перад сабой ні ставіў, у якім бы «амплуа» ні выступаў, заўсёды ў сваёй творчасці вырашае яшчэ і звышзадачу — уносіць нейкі свой, індывідуальны штрых у той агульны партрэт сучасніка, над стварэннем якога працуе ўсё наша мастацтва, па якім нашчадкі будуць меркаваць пра нас і пра наш час. Таму для нашай крытыкі, відаць, больш важна высветліць, якім жа паўстае ва ўяўленні мастака наш сучаснік, якія рысы яго характару лічыць мастак найбольш характэрнымі, вызначальнымі, а не вырашаць уяўна шматзначную дылему — здолеў ці не здолеў мастак раскрыць гэты самы «ўнутраны свет», тым больш, што адказ амаль заўсёды будзе вельмі суб'ектыўны і павярхоўны.

Пакінем убаку партрэтны жывапіс бо, згадзіцеся, разважаць пра ўнутраны свет канкрэтных, жывых людзей—справа не вельмі ўдзячная, ды і не надта тактоўная. Звернем увагу на героя абагульненага, на героя у якім, бы ў фокусе, павінны быць сабраны найбольш характэрныя, найбольш адметныя рысы характару сучасніка, найбольш вызначальныя бакі яго светапогляду. Возьмем для прыкладу карціну М. Данцыга «Рабочы». Яна прыцягвае ўвагу. Яна не простая. Вырашана згодна з правіламі той стылістыкі, якую намацаў М. Данцыг у сваіх апошніх работах і якую паслядоўна і ўпарта распрацоўвае.

Мова гэтай карціны лаканічная, нават сухаватая, ёсць у ёй нешта ад вытанчана вырашанай трыганаметрычнай задачы — спецыяліст-матэматык з першага погляду адчуе асалоду ад прыгажосці пабудоў, лагічнасці і паслядоўнасці развіцця аўтарскай думкі. Чалавек жа, не вельмі падрыхтаваны ў матэматыцы, — заблытаецца ў першых радках і, засаромеўшыся, махне рукой на ўсе гэтыя тангенсы і косінусы, маўляў, жыў без гэтага столькі і яшчэ два разы па столькі пражыву...

Зададзеная сухасць, матэматычнасць жывапісу (а я ўпэўнены, што ў гэтым выпадку прыярытэт на яго баку) пацягнулі за сабой сухасць, схематызм, надуманасць у трактоўцы вобраза героя. Паводле М. Данцыга, ён чалавек, які на «ты» з агнём і металам, гаспадар, уладальнік, які не ведае, што такое няўпэўненасць, ваганні. Магутныя мышцы яго быццам спецыяльна створаны для нялёгкай фізічнай працы. Ён дыхае на поўныя грудзі толькі тут, у цэху, які з'яўляецца для яго і домам і універсітэтам. Нам цяжка ўявіць гэтага хлопца ў цывільным пінжаку і гальштуку, цяжка ўявіць, як ён слухае музыку, вершы.

Недзе яна побач з героем, гэтая істота, якой невядомыя пачуцці чалавека з плоці і крыві, яго перажы-







Ю. ЗАЙЦАЎ. 3 серыі «Хатынь».

ЗАПАЛА Ў СЭРЦА

# ГРОНКІ РАБІНЫ

Некаторыя праходзяць міма. Але тыя, што спыняюцца, застаюцца ля пейзажаў Канстанціна Касмачова надоўга. Таму што ёсць у іх нейкая прываблівая сіла.

Гэта толькі спачатку здаецца, што ўсё ў іх проста. Барвовыя, падобныя на заход сонца, рабіны. Жоўтае, як лімон, лісце. Шэрае неба. Бялюткія, як малако, гарлачыкі.

Спачатку здаецца, што ўсё ў гэтых пейзажах зразумела. Рвуцца ў маркотнае неба бярозы, гнуцца і супраціўляюцца ветру стомленыя дрэвы. Кудысьці нясе сваю сінь рака...

Але ўжо праз некалькі мінут замітусяцца перад вачыма, быццам навялічаныя буйным планам, цяжкія раскошныя гронкі рабіны. Яны прыйшлі сюды, на палотны аднекуль з далёкай краіны дзяцінства, дзе было так лёгка, проста і весела. А потым убачыш ствалы—старыя, зморшчаныя, шурпатыя ствалы, якія выношваюць і нараджаюць гэтыя плады. Так і адчуваеш, як павольна ідуць па іх сокі, з якой цяжкасцю гоніць іх стомленае сэрца старога дрэва. З апошніх сіл, да апошняга дыхання дораць і дораць яны прыгажосць. Так і паміруць, стоячы, як салдаты, як людзі.

І раптам думаецца ўжо не пра дрэвы, а пра людзей, якія ўмеюць шчодра, да канца дарыць іншым свае думкі, тварэнне рук сваіх і сэрца, без якіх нам сёння ўжо немагчыма. Міжволі ўспамінаеш Міхаіла Святлова, які да апошняга дыхання пісаў вершы. Паміраў, жыў, пісаў. І іншых успамінаеш...

Сумныя і трывожныя, аптымістычныя і светлыя пейзажы Канстанціна Міхайлавіча Касмачова: «Рабіны», «Непагадзь», «Чарот», «Восень», «Верасень», «Пасля дажджу». Яны — аб прыродзе, аб жыцці, якое немагчыма без роздуму, без любві, без узрушэнняў. Мастака вабіць восень. Відаць, яго вабіць тая філасофская мудрасць і тая загадкавасць, якая тоіцца ў гэтай пары года, у гэтай пары чалавечага існавання.

Мастак піша «Восень» шчодрым пэндзлем. Таму не толькі бачыш зябка ўхутаную ў жоўтае адзенне зямлю, чароды воблакаў, якія плывуць увышыні, пахмурую рэчку, але і чуеш хруст, свіст, шэпат лісця, якое гоніць вецер, усёй істотай сваёй адчуваеш холад вады і пах насычанага вільгаццю паветра.

Мастак піша «Восень» шчодрым сэрцам, у яго восень не проста завяданне прыроды, але і надзея на будучае, на будучыя вёсны і леты.

Ля пейзажаў Касмачова пражываеш цэлае жыццё. Гудуць, нібыта пчаліны рой, і напаўняюць галаву ўспаміны. Быццам кінакадры, праходзяць перад вачыма пакутлівыя, параненыя восені вайны, расстралянае важкае жыта і выгарэлае за лета неба, разрэзанае на кавалкі зенітнымі снарадамі і кулямётнымі чэргамі.

І пераможныя восені ўспамінаюцца.

І пушкінская болдзінская восень...

Пранізлівым аптымізмам, любоўю да цудоўнага прасякнута палатно «Чарот».

Сваім энергічным пэндзлем мастак імкнецца перадаць жыццё ва ўсёй яго паўнаце. Хоць гаворка ідзе аб пейзажах, на якіх няма ніводнай фігуры чалавека — чалавек усё ж прысутнічае. Прысутнічае як частка прыроды, як яе пясняр...

Ірына ПІСЬМЕННАЯ.

# ЯКІ ТЫ?

ванні, слабасці, пакуты, у паўсядзённай барацьбе з якімі і гартуецца тое, што мы называем чалавечым характарам, у якім ёсць месца і для высокага гераізму і для дробязнага сябелюбства, для высакароднасці і подласці, для самаадданасці і эгаізму, бо чалавек увесь сатканы з супрацьпастаўленняў і жыццё яго — паўсядзённая барацьба з самім сабой, у якой кожны намагаецца дасягнуць ідэалу і кожны пераконваецца ў яго недасягальнасці.

Недзе ў гэтым жа рэчышчы ўяўнай шматзначнасці, механічнай спрошчанасці характарыстык вырашаны і героі карцін А. Шаўчэнкі («Партрэт студэнта»), А. Малішэўскага («Медсёстры»), А. Сямілетава («Камсамольцы дваццатых» і «Камсамольцы сямідзесятых», графічныя лісты Л. Асецкага з серыі «Будні Ваенна-Марскога Флоту». У гэтых работах мастакі, расказваючы пра сучасніка, вызначаюць нейкую адну, на іх думку, галоўную рысу характару героя, узбуйняюць яе, намагаючыся дасягнуць манументальнасці, але, спрашчаючы вобраз свайго героя, скочваюцца да адназначнасці, штучнага збяднення яго ўнутранага свету.

Не заўсёды трапляюць у «яблычка» і тыя мастакі, якія стараюцца не адыходзіць ад натуры, стараюцца не прыдумляць свайго героя, а дакладна, нічога не змяняючы і не абагульняючы, занатаваць на палатне яго стан, яго перажыванні ў пэўную мінуту. У такіх работах можна сустрэць шмат цікавых знаходак, назіранняў, яны прыцягваюць сваёй цеплынёй, інтымнасцю, праўдападабенствам. Але і яны, як правіла, не ўздымаюцца вышэй таго, што на мове юрыстаў завецца «асобным выпадкам». Яны грашаць той жа адназначнасцю характарыстыкі сучасніка, што і названыя вышэй, толькі з іншым знакам.

Найбольш паказальныя ў гэтым сэнсе дзве невялічкія карціны А. Гугеля «Даярка» і «Хлеб». На абедзвюх — маладыя дзяўчаты не вельмі прыгожыя, не вельмі інтэлігентныя, звычайныя дзяўчаты, шчаслівыя ад таго, што яны маладыя, што сіл у іх цераз край, што наперадзе ўсё жыццё, у якім павінна быць усё толькі добрае. Яны выклікаюць у нас сімпатыю сваёй жыццярадаснасцю, сваім аптымізмам, мы любуемся імі, і ў той жа час вымушаны прызнацца, што гэтыя работы не ўзнімаюцца вышэй добра зробленага эцюда, якраз таму, што ў іх трактоўцы няма аўтарскага роздуму аб жыцці, светапоглядзе маладога чалавека пачатку сямідзесятых. Яны такія, як ёсць, і прымаць іх трэба такімі, якія яны ёсць, — ні больш, ні менш. А. Гугель быццам наўмысна называе нам толькі сам факт і не хоча дзяліцца з намі сваімі думкамі.

Дык дзе ж ісціна?

Можна было б сказаць, што яна недзе пасярэдзіне. Але гэта было б недакладна, бо законы мастацтва не адпавядаюць законам геаметрыі.

Ісціна ў сінтэзе гэтых двух пачаткаў — матэматычна бездакорнага даследавання псіхалогіі чалавека, пільнасці назіранняў, цеснай сувязі іх з жыццём плюс уменне заўважыць і занатаваць сродкамі жывапісу неадназначнасць, шматпланавасць, супярэчлівасць душэўных парыванняў чалавека. У якой жа рабоце гэты сінтэз найбольш блізкі да аптымальнага?

Відаць, не памылюся, калі скажу, што найбольш цікавым, найбольш складаным і значным выглядае вобраз сучасніка ў карціне М. Савіцкага «Бальшавік». Карціна ўвогуле не бездакорная. Ёсць у ёй слабыя месцы, яе можна папракнуць за фрагментарнасць расказу, неарыгінальнасць сюжэта, празмерную публіцыстычнасць, нават плакатнасць. Але нягледзячы на ўсе гэтыя папрокі яна ўзнімаецца да вяршынь сапраўднага мастацтва якраз дзякуючы выдатна знойдзеным характарыстыкам вобраза, яе галоўнага персанажа — бальшавіка, якога аўтар паказвае нам у апошнія хвіліны жыцця. Можна ў думках прыкрыць усю плошчу палатна, пакінуўшы толькі маленькі кавалак яго, трыццаць на трыццаць сантыметраў, на якім напісаны партрэт галоўнага героя, і ўсё ж такі нават з гэтага фрагмента даведаемся і аб сюжэце карціны і аб падзеях, пра якія расказвае нам мастак.

М. Савіцкі любіць ставіць сваіх герояў у звышнатуральныя па напружанні сітуацыі. Зразумела, гэта патрабуе ад яго бездакорнай дакладнасці характарыстык, выверанасці аналізу, умення перадаць усю палітру пачуццяў чалавека, які стаіць на мяжы паміж жыццём і смерцю. У папярэдніх работах гэта не заўсёды ўдавалася мастаку. Здаралася, ён ішоў па шляху спрашчэння ўнутранага свету сваіх герояў, ледзь не іканапіснасці іх. Тым больш прыемна, што ў гэтай карціне мастак быццам уздыхнуў на поўныя грудзі, быццам выказаўся ўрэшце да канца, не пакінуўшы «пра запас» ніводнага важнага, важкага слова.

Які ж ён, гэты чалавек, камуніст, які ў апошняй схватцы сам-насам сышоўся з цёмнай, пачварнай сілай фашызму і перамог яе, стаў суддзёй сваіх катаў, вынес прыгавор іх вар'яцкай філасофіі. Што дало яму сілы выстаяць у гэтай схватцы, выстаяць і перамагчы? Хто ён? Які жыццёвы шлях у яго за плячыма? За якія ідэалы ідзе ён на смерць з такой спакойнай упэўненасцю ў перамозе сваёй справы?

Яго жыццё запісана ў барознах яго маршчын, у пасівелых заўчасна валасах, у цвёрдасці скулаў, яснасці позірку. Ён — плоць ад плоці нашага народа, ён — нязломны дух яго. Ніколі ў жыцці ён ні на драбніцу не паступіўся сваімі ідэаламі дзеля асабістай выгоды, не паступіцца імі і зараз, калі на вагі кінута яго жыццё. Угдядаючыся ў яго твар, мы разумеем: гэта чалавек-крэмень, загартаваны ў агні пакут. І ў той жа час мы да болю ясна ўяўляем сабе яго дабрату, чалавечнасць, пяшчоту. Ён не звышчалавек, ён такі ж, як і мы, з тых жа мускулаў, крыві, нерваў. Яму таксама страшна і балюча, але ён можа пераадолець сябе, сабрацца ў сваю апошнюю хвіліну, каб не паказаць слабасці ворагам, бо ў яго за плячыма — мільёны аднадумцаў, мільёны таварышаў, вера ў якіх дапамагае яму так проста і ясна, з такім пачуццём асабістай годнасці глядзець у твар смерці.

Нас падкупае ў гэтым вобразе і тое, што галоўны персанаж карціны — не казачны асілак, з якім мы міжволі звязваем свае ўяўленні аб героі, а просты, хударлявы, стомлены чалавек, які шмат працаваў, які не шкадаваў сябе, калі трэба было будаваць, вучыцца. Ён блізкі нам. У яго твары мы бачым сляды тых думак, якія хвалююць і нас, тых пачуццяў, якія зведалі і мы.

Здавалася б, не такі ўжо багаты арсенал мастака: палатно, вугаль і фарбы. Але як многа можа сказаць майстар, калі не застаецца халодным да лёсу свайго героя, калі суперажывае з ім, калі ведае глыбіні яго душы і сумлення, без усялякіх скідак, расказвае нам пра тое, што ведае сам, пра тое, што выпакутаваў ля чыстага палатна, перад тым, як правесці на ім першую лінію, зрабіць першы ўдар пэндзлем.

# ДРОБЯЗІ? І ЎСЁ-ТАКІ...

Што азначае па-беларуску слова **«бабачка»!** Як зразумець выраз «першы хлопец на **дзярэўні»!** Што такое **«пладароддзе»!** З якога часу Брэсцкая крэпасць стала «Брэ**ст**скай»? Як перакласці на нашу мову назву вядомага апавядання Ф. Дастаеўскага «Кроткая»? Што гэта за кветкі «Белыя **лілії»!** Гэтыя і падобныя пытанні ўзнікаюць у наведвальнікаў рэспубліканскай мастацкай выстаўкі, разгорнутай у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, калі яны чытаюць этыкеткі на творах мастакоў.

Такая выстаўка — вялікая падзея ў культурным жыцці рэспублікі, і мастацтвазнаўцы аддадуць належнае яе вартасцям і недахопам, мастакоўскім поспехам і пралікам. Мне ж хочацца зрабіць заўвагі аб нядбайнасці этыкетажу.

Сустракаюцца памылкі ў прозвішчах. Гэта проста нетактоўна. У этыкетцы да карціны Н. Воранава «Беларусь — мая песня» напісана «Заслужаны артыст БССР В. А. Буркевіч», хоць такога цымбаліста ў рэспубліцы наогул няма, усе ведаюць выдатнага музыканта В. А. Бурковіча.

Выклікае здзіўленне этыкетка на графічных лістах Б. Заборава, дзе напісана «Ілюстрацыі да твораў Януша Корчака «Кароль Матуш І». Чаму «твораў», адкуль узнік «Матуш», ніхто, натуральна, не адкажа, тым больш, што экспануецца і вокладка з правільнай назвай твора. Зусім дзіўны подпіс атрымала графіка В. Тарасава. На адной этыкетцы чытаем: «Ілюстрацыі да кнігі **В. Вольскага** «Што такое мікра—ты?», на другой: «Ілюстрацыі да кнігі **В. Волкава** «Што такое мікра—ты?» Дзе праўда? Нідзе. Абодва подпісы памылковыя, бо аўтар кнігі — **А. Вольскі.**

Ёсць нядбайнасць і іншага парадку. Мала хто здагадаецца, чаму карціна М. Данцыга «На варце міру» мае менавіта гэтую назву, а не названа, дапусцім, «Шчасце», «Сям'я», «Новабудоўля» і да т. п. Непаразумення не было б, калі б у музеі не паленаваліся паведаміць у этыкетцы, што гэта толькі **цэнтральная частка трыпціха** «На варце міру». Тады было б ясна, што левая і правая часткі, якія прысвечаны арміі і на выстаўцы адсутнічаюць, далі падставу для назвы.

Няўвага да этыкетажу прыкметна і ў штучных назвах некаторых твораў. Мастака назва карціны клапоціць мала. Нельга без яе? Калі ласка. І з'яўляецца, напрыклад, на прыгожай акварэлі Л. Лейтмана няўдалае стылістычнае спалучэнне: «Зімовыя прасторы Ленінскага раёна».

Няма выверанасці і ў афармленні этыкетак. У палавіны мастакоў абвешчаны імя і імя па бацьку, у астатніх названы толькі ініцыялы. Чаму?

Нелагічна, што не маюць назвы вырабы са шкла.

Могуць запярэчыць, што ўсе гэтыя пралікі — дробязная і не вартая размовы справа, выпадковасць. Не зусім так. Бо выпадкі блытаніны і ўжывання жаргону ў этыкетках у нас сталі амаль традыцыйнымі. Яны ўплываюць на ўражанні ад выстаўкі накшталт той самай лыжкі дзёгцю, што псуе бочку мёду. Не трэба даказваць відавочную ісціну — кожная выстаўка павінна быць культурнай па ўсіх элементах афармлення.

**К. ТАРАСАЎ.**



Н. ВОРАНАЎ. Анджэла.

## *Віншуем з юбілеем!*

**З. П. МАТУЗАВУ 60 ГАДОЎ**



*Спойнілася 60 гадоў дырэктару выдавецтва «Беларусь» Захару Пятровічу Матузаву. З гэтай нагоды праўленне Саюза пісьменнікаў БССР накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:*

**«Дарагі Захар Пятровіч!**

**Беларускія пісьменнікі сардэчна віншуюць Вас, свайго даўняга таварыша па літаратурнай справе, з 60-годдзем з дня Вашага нараджэння.**

**Доўгія гады Вы ўзначальваеце адзін з важных участкаў ідэалагічнага фронту ў рэспубліцы — выдавецтва «Беларусь». Дзейнасць гэтага выдавецтва непарыўна звязана з развіццём беларускай літаратуры. Усе новыя творы беларускіх пісьменнікаў савецкага перыяду выходзілі і выходзяць у свет менавіта ў гэтым выдавецтве.**

**Вы шмат рабілі і робіце для таго, каб кожны прыняты да друку рукапіс стаў кнігай, здабыткам шырокіх колаў чытачоў, нёс у масы святло нашых вялікіх ідэй, праўду нашага жыцця. З году ў год паляпшаецца паліграфічная якасць выдання кніг — і ў гэтым ёсць Ваша значная заслуга.**

**Мы ведаем Вас як прынцыповага і ў той жа час чулага чалавека, выдатнага таварыша, добрага друга роднай літаратуры.**

**Жадаем Вам, дарагі Захар Пятровіч, здароўя, доўгіх год жыцця, новых поспехаў у Вашай працы, шмат радасці».**

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага цёплага віншавання.*

## АБМЕРКАВАННЕ П'ЕСЫ Ул. КАРАТКЕВІЧА

*З пасяджэння секцыі драматургіі СП БССР*

**17 лютага ў клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі адбылося пасяджэнне секцыі драматургіі, на якой абмяркоўвалася п'еса Уладзіміра Караткевіча «Смерць і няўміручасць Кастуся Каліноўскага». У гаворцы, у якой прымалі ўдзел Максім Танк, Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, Аляксей Кулакоўскі, Алесь Кучар, Язэп Семяжон, Віктар Каваленка, Валянцін Зуб, Алесь Ставер, Мікола Гамолка, доктар філалагічных навук Юльян Пшыркоў, супрацоўнікі АН БССР кандыдат гістарычных навук Міхаіл Біч, кандыдат філалагічных навук Арсен Ліс, кандыдаты мастацтвазнаўчых навук Анатоль Сабалеўскі і Сцяпан Міско, адзначалася, што зварот Ул. Караткевіча да гістарычнай тэмы заслугоўвае ўсялякай ўхвалы і асабліва да такіх падзей, як паўстанне 1863 года на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Польшчы, дзе скрыжаваліся лёсы трох братніх народаў, сумеснае змаганне за лепшую долю і роўнасць. Многія з выступаючых падкрэслівалі, што Ул. Караткевіч у сваім новым творы наблізіўся да жыццёвай праўды, дастаткова пераканальна перадаў рэвалюцыйны дух працоўнага народа, настрой паўстанцаў, стварыў каларытны і выразны вобраз кіраўніка паўстання — Кастуся Каліноўскага.**

**Разам з тым былі адзначаны і недахопы. Выклікала пярэчанне некаторая звужанасць аўтарам гістарычных рамак, бытавая зніжанасць твора, недакладнасць дыялога.**

**Сказаўшы пра важкасць і змястоўнасць абмеркавання, вострую зацікаўленасць усіх яе ўдзельнікаў у тым, каб твор убачыў сцэну, Уладзімір Караткевіч падзякаваў усім за дабразычлівыя крытычныя заўвагі, сказаўшы, што ён будзе кіравацца імі пры дапрацоўцы п'есы.**

## СУСТРЭЧА Ў МАЛАДЗЕЧНА

19 лютага ў Маладзечна ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы адбылася сустрэча супрацоўнікаў рэдакцыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» з аўтарскім актывам і чытачамі, прысвечаная XXIV з'езду КПСС.

Галоўны рэдактар штотыднёвіка Л. Прокша, намеснік галоўнага рэдактара А. Бажко, загадчыкі аддзелаў Ул. Бойка і А. Грачанікаў расказалі пра планы работы рэдакцыі, адказалі на пытанні прысутных. Паэтэсы Е. Лось і Я. Янішчыц прачыталі свае вершы.

У сустрэчы прынялі ўдзел сакратары Маладзечанскага гаркома і райкома партыі Л. Лыкава і і В. Ляшкевіч.

Жэня ЯНІШЧЫЦ

# ПРА ЧАС І ПРА НАС

«НЕ ПАДГАНЯЙ час, інакш ён перастане цябе слухацца, як дрэннага настаўніка».— гаворыць народная прымаўка. Можа гэта гучыць сёння крыху і наіўна, але ёсць тут штосьці такое, да чаго варта прыслухацца.

Гэтыя словы ўспомніліся невыпадкова: хочацца выказацца пра некаторыя сённяшнія турботы самых маладых літаратараў, пра тое, як адбіваецца ў іх творчасці час.

Гавораць, напрыклад, пра цэлыя выраі рыфмаваных радкоў, пра своеасаблівы крызіс маладой паэзіі.

Тут трэба памеркаваць, пастарацца аб'ектыўна і ўважліва прааналізаваць прычыны адкрыццяў, калі яны ёсць, і недахопаў у творчасці маладых.

Шасцідзесятыя гады вызначаліся вялікім прытокам у літаратуру новых імёнаў, задзірыстай рэакцыяй маладых на праблемы сучаснасці, нечаканым фармальным майстэрствам пачаткоўцаў.

І вось — гэты «крызіс», «застой».

Высокая культура паэтычнага радка, сучаснасць тэматыкі і — аднастайнасць. Паэты як бы стаміліся і пачалі паўтарацца. І стала зразумела: сёння нікога не здзівіш мадэрнавай рыфмай, знешне кідкім вырашэннем тэмы.

Заўважаеш: паэты баяцца звычайнай сюжэтнасці. Маўляў, у ёй тоіцца апісальнасць. Але цікава спытаць, якой апісальнасці мы баімся? А можа мы проста баімся эпічнасці? Можа мы недаацэньваем традыцыі Пушкіна і Коласа?

Адмаўляючы сюжэт, мы тым самым міжволі пачынаем ісці ў творчасці ад абстрактнага, а не канкрэтнага. Гэта не заўсёды страшна, але і не заўважаць небяспекі нельга, бо рэбусы будуць рэбусамі, а паэзія — паэзіяй.

Вельмі часта адмаўляюць апісанне як «голую эмоцыю». І выстаўляюць на першы план паэзію думкі. Так, А. Вярцінскага і П. Макаля адносяць да «рацыянальных», а Р. Барадуліна і В. Вярбу да «эмацыянальных» паэтаў.

Але, прашу даравацъ, усе гэтыя тэрміны дастаткова ўмоўныя. Час бярэ сваё, і нельга ўжо цяпер забывацца нам пра самае галоўнае — пра сінтэтычнасць мастацтва. Бо пачуцці або думка паасобку ніколі не змогуць даць нам цэласнага ўражання.

Несумненна і тое, што развіццё паэзіі цесна звязана з ростам асобы з яе духоўна-асабістым пачаткам. І паэзія нараджаецца тады, калі ў душы самога творцы адбываецца значны духоўны пераварот, калі паэт актыўна засвойвае лепшыя здабыткі сучаснай паэзіі.

Нашы маладыя добра цяпер ведаюць паэзію Гарсія Лоркі, Жака Прэвэра, Антоніа Мачада. Многія ў захапленні ад паэзіі Еўтушэнкі, Вазнясенскага, Ахмадулінай, Вярцінскага. Дрэнна толькі тое, што некаторыя з маладых пад уплывам іх пачынаюць ствараць падобнае, а гэта спрошчвае творчую асобу, пазбаўляе яе індывідуальнасці.

Цэлымі касякамі праплываюць новыя імёны, а на працягу доўгага часу ў памяці застаюцца адны і тыя ж — Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Рыгор Барадулін, Вера Вярба. Яны і дагэтуль, на дзіва, лічацца яшчэ ў нас маладымі, хоць аб сваім почырку заявілі даўно. На якім жа скрыжаванні тады застаюцца іншыя паэты? Марудна шукаюць сябе? Згодзімся, што так. Добра, калі гэта нястомны пошук, пошук штодзённы і неспакойны. Ён тады дасць плён.

І ўсё ж сапраўднай радасцю для нас былі першыя паэтычныя кніжкі Р. Семашкевіча, Ю. Голуба, А. Разанава і Н. Мацяш.

Мы павінны абганяць час. Але ў якім плане? Напэўна, у плане эмацыянальна-філасофскай пісьменнасці, у плане вышэйшага паэтычнага узроўню, у плане больш поўнага і ўмелага выкарыстання народных скарбаў, як гэта рабілі і робяць паэты старэйшага пакалення. Мы не павінны прысешваць час нейкімі філасофскімі выдумкамі, зводзіць паэтычнае майстэрства да дарэмных намаганняў «объять необъятное». Калі ёсць сапраўдны талент, калі ёсць гарэнне да працы, то майстэрства абавязкова павінна прыйсці. Паглядзімо, напрыклад, да чаго прывёў залішні «абгон» і «мадэрнізацыя» маладую польскую паэзію, пра крызіс якой у апошні час пішуць нават самыя яе творцы. Крызіс заўсёды прыходзіць пасля перавытворчасці таго матэрыялу, які не мае збыту. З паэзіяй крыху інакш. Збыт у тым альбо іншым выпадку яна знаходзіць. Паэтычныя зборнікі разыходзяцца цяпер вельмі хутка. Але ці ўсе яны прыносяць чытачу сапраўднае задавальненне, ці кожны зборнік хочацца перачытаць яшчэ і яшчэ раз?

Калі эксперыментаў становіцца больш, чым сапраўдных адкрыццяў, то паэтычная творчасць губляе ўсялякую прывабнасць. Мы павінны ўважліва паглядзець вакол сябе, каб заўважыць, напрыклад, асаблівасці сучаснага горада, каб лепш убачыць вёску з яе сённяшнімі пераўтварэннямі і з яе неўміручай народнай песняй.

Згодзімся і з тым, што паэзія—гэта хутчэй за ўсё «адкрыты» пункт гледжання на падзеі часу. Але пакідае непрыемнае ўражанне тое, што першы прыйшоўшы ў галаву радок

М. ТЫЧЫНА

# ПРАНІКНУЦЬ У ТАЙНАЕ ТАЙНЫХ

МАБЫЦЬ, трэба прызнаць справядлівым крытычны закід у бок беларускіх літаратуразнаўцаў, зроблены В. Рабковым у артыкуле «Хто ты, творца?», надрукаваным не так даўно на старонках газеты «Літаратура і мастацтва». Сапраўды, у нашай рэспубліцы пакуль што мала робіцца ў справе даследавання праблем тэорыі і псіхалогіі літаратурнай творчасці. Гэта тым больш крыўдна, калі прыгадаць, што іменна ў Мінску ў 1923 г. упершыню ў нашай краіне была выдадзена кніга пад назвай «Псіхалогія творчасці» (яе аўтар — прафесар С. О. Грузенберг).

Сам факт выступлення В. Рабкова, так сказаць, радавога чытача, знамянальны. Ён азначае, што ў нашай рэспубліцы ўсё больш расце цікавасць да праблем тэорыі і псіхалогіі творчасці, што, у сваю чаргу, сведчыць аб неабходнасці іх даследавання. Сёе-тое робіцца і нашымі літаратуразнаўцамі. У прыватнасці, некаторыя з гэтых праблем вывучаюцца супрацоўнікамі інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. З мэтай стварыць групу па сацыялагічным вывучэнні ўспрымання чытачамі мастацкіх твораў вясной гэтага года Мінск наведаў кіраўнік Дзяржаўнага камітэта па комплексным вывучэнні мастацкай творчасці прафесар Б. С. Мейлах.

Для таго, каб пачаць сур'ёзную працу ў гэтым кірунку, у нас ёсць дастатковая база. Высокай ступені развіцця дасягнула крытычная думка. Расце цяга да аб'ектыўнага навуковага аналізу творчага вопыту беларускіх пісьменнікаў, да глыбокага разумення сутнасці мастацкай творчасці, да раскрыцця прыроды пісьменніцкага таленту. Выразна заўважаецца імкненне крытыкаў зразумець індывідуальныя асаблівасці таленту розных пісьменнікаў, «прагназіраваць» напрамак іх творчага росту, вызначаць перспектывы развіцця літаратуры. Чым, напрыклад, захапляе чытача артыкул В. Бечыка «На паўмільярдным кіламетры», надрукаваны сёлета ў газеце «Літаратура і мастацтва»? Менавіта імкненнем крытыка ісці ад творчай індывідуальнасці паэта Аркадзя Куляшова, зразумець сэнс яго творчых пошукаў, разабрацца ў іх складанасці і непрамалінейнасці, уявіць не толькі вызначальныя асаблівасці сённяшняга этапу яго творчасці, але і тыя, што пакуль з'яўляюцца другараднымі, але могуць развіцца і стаць асноўнымі.

Было б вялікай памылкай не заўважаць усяго таго, што зрабіла беларускае літаратуразнаўства на шляху да вывучэння псіхалогіі творчасці. Некаторыя асаблівасці мастацкага мыслення, склад думак і пачуццяў, сістэма поглядаў пісьменніка могуць быць выяўлены і пры аналізе яго твораў. У гэтым сэнсе асабліва шмат дае даследаванне індывідуальнага стылю і майстэрства пісьменніка. Узаемаадносіны слова і вобраза, удзел у гэтым працэсе мастацкай думкі як асновы творчасці — так можна вызначыць асноўны змест кнігі Ул. Юрэвіча «Слова і вобраз». У слове, даводзіць ён, кандэнсуюцца асаблівасці стылю, самабытнае творчае аблічча мастака. Але сувязь слова і вобраза дыялектычная. Праца над словам—не самамэта, а прага найбольш поўна і глыбока адлюстраваць жыццё. Пошукі слова — гэта пошукі вобраза, а пошукі вобраза — гэта пошукі патрэбнага слова. Аналіз мовы Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Васіля Быкава дазволіў Ул. Юрэвічу глыбей зразумець мастацкія вобразы, створаныя гэтымі пісьменнікамі, правільна вызначыць асноўныя асаблівасці іх творчай індывідуальнасці.

Зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў В. Каваленкі «Давер», прысвечаны, як гаворыцца ў анатацыі, праблемам сучаснай беларускай прозы. Але аўтар, вывучаючы найбольш важныя тэндэнцыі сучаснай беларускай літаратуры, добра адчувае настойлівую неабходнасць больш шырокага і глыбокага разумення мастацкай творчасці і ўвесь час звяртаецца да псіхалогіі творчасці, спасылаецца на яе патрабаванні. Пафас кнігі ў сцвярджэнні думкі: сапраўдны мастацкі твор — даследаванне жыцця, сапраўдны пісьменнік — мысліцель, першаадкрывальнік. Іменна ў ходзе даследавання рэчаіснасці паяўляецца ў творчай свядомасці пісьменніка агульная задума новага твора, у адпаведнасці з якой выбіраюцца героі, жанр, жыццёвы матэрыял. Ужо ў тым, што прыцягвае ўвагу пісьменніка ў жыцці, выяўляецца яго творчае аблічча, эмацыянальны, маральны і творчы вопыт, характар светаадчування і светапогляду, сацыяльная і псіхалагічная прырода яго мастацкага таленту. Вось чаму выбар гэты не можа быць выпадковы, вынікаць з зададзеных тэарэтычных разважанняў. Герой, жанр, падзеі павінны быць псіхалагічна сумяшчальныя з талентам пісьменніка, павінны адпавядаць яго творчым магчымасцям і імкненням. Усё гэта даводзіцца на матэрыяле твораў Я. Брыля, А. Карпюка, А. Адамовіча і іншых беларускіх пісьменнікаў.

Сярод прац, якія падыходзяць да пастаноўкі і пачатковай распрацоўкі праблем псіхалогіі творчасці, можна назваць даследаванні «Шлях да майстэрства» і «Культура творчасці». А. Адамовіча, «Характар. Стыль. Дэталь» і «Літаратура і мова» Р. Шкрабы, «Гісторыя і сучаснасць» С. Александровіча і інш. Беларускае літаратуразнаўства знаходзіцца на подступах да вывучэння праблем мастацкай творчасці. Аднак істотным недахопам названых прац з'яўляецца імкненне будаваць разважанні выключна на матэрыяле твораў. Асновай вывучэння мастацкага мыслення пісьменніка павінны стаць рукапісы, варыянты, і, вядома, самі мастацкія творы ў іх закончаным выглядзе, бо ў іх, як у непраяўленай фотаплёнцы, скрыты поўны і аб'ектыўны малюнак творчага працэсу пісьменніка. Увесь астатні матэрыял (сведчанні пісьменніка, творчая дзейнасць яго ў іншых жанрах) памагае «праявіць» гэты малюнак. Нельга сцвярджаць, што гэтыя матэрыялы зусім не выкарыстоўваліся, але выкарыстоўваліся часткова і для рашэння прыватных задач, а не найбольш агульных, як напрыклад, даследаванне працэсу творчасці пісьменніка ад узнікнення задумы твора да яе рэалізацыі. Актуальнасць праблем мастацкай творчасці тлумачыцца не толькі сталасцю нашай крытычнай думкі, але і надзвычайным ростам адукацыйнага ўзроўню сучаснага чытача. Значна павялічыўся ўдзел шырокай чытацкай аўдыторыі ў «сутворчасці». У імкненні некаторых пісьменнікаў белетрызаваць мастацкае апавяданне, папулярызаваць агульнавядомае, тлумачыць зразумелае сённяшні чытач бачыць звычайны недавер да сябе і патрабуе мастацкага лаканізму, шырокай асацыятыўнасці творчага мыслення, стварэння глыбіннага падтэксту, вялікіх думак і вялікіх пачуццяў. Ён даволі начуўся пра тое, як фабрыкуюцца некаторыя так званыя мастацкія творы, і цікавіцца, як узнікае сапраўдная літаратура, як факт жыцця становіцца фактам мастацтва.

Мабыць, больш за ўсіх адчуваюць патрэбу ў адказе на шматлікія пытанні, якія паяўляюцца ў працэсе творчасці, самі літаратары. Дастаткова прыгадаць тут выказванне М. Страль-

ПАЭТЫЧНАЯ ПАВЕРКА



Юрась СВІРКА

## ЖЫВОЕ ЗЕРНЕ

●

І я калісьці верыў у паданні,
Але такіх не уяўляю дзіў:
Вясною, нехта бачыў, на світанні
Па нашым краі правадыр хадзіў.

О, рэдкая, о, светлая часіна!
О, першая, світальная зара!
Няўжо народ мой, шчыры і гасцінны,
Не запрасіў у дом правадыра!

І ён сядзеў бы у сасновай хаце,
Дзе пахне полем ільняны абрус.
Хоць ведаў сам,
Ды запытаў бы ў маці,
Як пажывае беларус.

Папіў бы ён крынічнае вадзіцы,
І пра жыццё павёў бы сказ такі:
«Усюды, — дзе ні гляну,—маладзіцы.
Няма вайны, а рэдка мужыкі».

І мой народ,
Хоць не хлусіў ніколі,
(Абы не засмуціць правадыра),
Даводзіў бы:
«Усе мужчыны ў полі.
Цяпер вясна — гарачая пара»...

## ПРЫЯЗДЖАЮ ДАМОЎ...

Прыязджаю дамоў
І лічу той прыезд не турысцкім,
Калі я паднавіў частакол
Каля хаты — дзяцінства калыскі.

Калі дзень у бацькоў не прайшоў
Самагонна-дрымотна,
Калі я з тапаром-калуном
Пагуляў на дрывотні;

Калі меў што суседу сказаць,
Распытаць пра жыццё і медалі,
Калі слова такое пачуў,
Што у слоўнік яшчэ не загналі;

Калі маці вясёлай была
За сталом, на двары, і ў гародзе,
Калі я адчуваў, што жыву,
Як аголены корань прыроды;

Калі бачыў, як бацька ішоў;
Кульбай ціснуў на дол асцярожна.
Ад гадоў адбівацца кійком
Надакучыла: лезлі бязможна;

# СМЕХ — НЕ ГРЭХ

У ПРАДМОВЕ да зборніка «Габраўскія ўсмешкі» Андрэй Макаёнак, звяртаючыся да чытача, пісаў: «Калі ты хочаш стаць мацнейшым ад усіх, узбройвайся жартам, смехам, пачуццём гумару. У цяжкія хвіліны жыцця жарт, смех, гумар згладжваюць непрыемнасці быцця, а ў радасныя дні — ўпрыгожваюць жыццё». І ў дадатак да сваіх слоў ён прывадзіў прытчу, пачутую ад Максіма Танка: «Калі багі раздавалі людзям таленты, апошняму дастаўся толькі смех, на які ніхто не звярнуў увагі. Толькі пасля з жахам апамяталіся багі, уцяміўшы, што чалавек, узброены смехам, можа аказацца мацнейшым ад іх...»

Часта прыгадваецца гэтая прытча, калі гартаеш сатырычныя старонкі газет і часопісаў, чытаеш новыя кнігі сатыры і гумару. Не дужа шырокія абсягі абжылі пакуль што нашы сатырыкі і гумарысты. Колькі яшчэ некранутай цаліны!

На дробязных канфліктах і сітуацыях сапраўдны твор мастацтва не пабудуеш. Сатыра і гумар толькі тады з поўнай аддачай выконваюць у грамадстве сваё высокае прызначэнне, калі ўзнімаюцца да асэнсавання вялікіх жыццёвых праблем. Прыклад гэтаму — сатырычныя творы класікаў беларускай літаратуры.

З каго і з чаго часцей за ўсё смяемся мы? П'яніца, валацуга, хапуга «упраўдом», недахопы ў будаўніцтве, марудлівасць бытавых і выратавальных служб, пажарных каманд ды яшчэ тое-сёе—вось асноўныя аб'екты, на якія скіравана сатыра. Такая «прафесіяналізацыя» звужае дыяпазон уздзеяння сатырычных твораў, прытупляе эфект іх успрымання, непазбежна прыводзіць да новых «варыяцый на старую тэму». І не без падстаў гавораць пра адставанне нашага сатырычнага «цэха». Вось чаму з такой цікавасцю сустракаецца кожная новая кніга нашых пісьменнікаў у жанры сатыры і гумару.

У канцы мінулага года выйшаў з друку вершаваны зборнік Н. Гілевіча «Ці грэх, ці 2». Паэт і раней працаваў у гэтым жанры, шмат якія яго сатырычныя і гумарыстычныя вершы і дагэтуль «нясуць службу» ў калектывах мастацкай самадзейнасці, гучаць у рабочых і сельскіх клубах.

Большасць вершаў, што ўвайшлі ў новы зборнік — алегарычныя сцэнкі, сатырычныя партрэты, гумарыстычныя замалёўкі. Узнімаючыся над канкрэтнымі жыццёвымі эпізодамі на ўзровень абагульненняў, паэт часам стварае адмоўныя сацыяльныя тыпы і маральна знішчае іх.

Узяць хоць бы верш «Дулі на вярбе», верш пра кандыдата сельскагаспадарчых навук, які абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму: «Барацьба за вырашэнне тэмы «Дулі на вярбе» на этапе завяршэння перамогі ў барацьбе». Паэт слушна заўважае: «На дзяржаўны кошт вучыўся ён амаль не дваццаць год. А затым абараніўся. Ад каго і ад чаго?» Над гэтым задумваецца, безумоўна, і чытач.

Сапраўды, дзяржава шчодра выдзяляе сродкі на развіццё айчыннай навукі і тэхнікі, інакш нельга: у краіне ідзе навукова-тэхнічная рэвалюцыя. Але там, дзе вырашаецца вялікая справа, заўсёды знаходзяцца людзі, дакладней, прыстасаванцы-прыліпалы, якія прагнуць прырэцца каля яе, дасягнуць за кошт дзяржавы ўласнага дабрабыту. Не маючы сапраўднага таленту, яны губляюць элементарную чалавечую прыстойнасць, ідуць на падман і хлусню, дзеля ўласнай карысці.

Яны вельмі небяспечныя для грамадства, гэтыя прыстасаванцы, кар'ерысты, бо там, дзе яны з'яўляюцца са сваім эгаізмам і карысталюбствам, парушаюцца нармальныя сувязі паміж людзьмі, калечацца людскія душы, галоўныя праблемы часу адыходзяць на другарадны план, распадаецца калектыў, размываецца адзінства мэты.

І мы смяемся з такіх вучоных, як кандыдат навук з верша «Дулі на вярбе»; смяемся з пустабая, які практычныя справы падмяняе бясконцым красамоўствам («Цярэшка»); з дырэктыўшчыка, які завальвае калгасы нікому непатрэбнай пісанінай («Папяровы кіраўнік»); смяемся з дзеда Шыкты, што ўсё жыццё жыве толькі мінулым («Дзед Шыкта»). Не толькі смяемся. Падзяляем разам з паэтам думку:

Нялёгка і няпроста
У горне новых дзён
Здымаць з душы нарост той,
Што веку не відзён.

У новым зборніку сатыры і гумару Н. Гілевіча чытач знойдзе дасціпныя вершы-жарты—«Вярблюд на пляжы», «Футбол», «Кузьма», «Вераб'ёвы госці» і інш. Паэт прымушае чытача задумацца над футбольным псіхозам апошніх гадоў, які выкліканы, мабыць, у некаторых балельшчыкаў не столькі прыцягальнай сілай спартыўнага відовішча, колькі магчымасцю традыцыйнага «омовения» вынікаў матча; пераканаўча даказвае справядлівасць народнага выслоўя «Колькі вяровачцы ні віцца...» у вершы «Вераб'ёвы госці».

Каля дзесяці вершаў, што ўвайшлі ў зборнік, напісаны паводле балгарскіх паэтаў. Мабыць, Н. Гілевіч наўмысна не вылучыў іх у асобны раздзел, бо, сапраўды, яны хараша ўпісваюцца ў агульны настрой і змест кнігі. Вартасць іх яшчэ і ў тым, што, хаця і адносна, яны знаёмяць нас з пошукамі балгарскіх паэтаў у жанры сатыры і гумару.

Для вершаў гэтага цыклу характэрна скіраванасць да ўнутранага свету чалавека, яго псіхалогіі, жаданне не толькі высвяціць «дрэннае і злое», але і прасачыць вытокі гэтых заган («Прытча пра зрокавае ўяўленне», «Стары сабака», «Казка пра дружбу са сланом»).

І ўжо не смех, а сумны роздум выклікае верш «Анафема» (паводле А. Мілаванава), дзе гаворыцца пра настаўніка Дайчынава, які некалі ў маладосці спазніўся на ўрокі на гадзіну і пяць мінут. Дзе б ні быў ён пасля, што б ні рабіў,—гэтая правіннасць неадступным ценем хадзіла за ім да самай яго смерці. Нават у развітальнай прамове над трунай нябожчыка шэф не прамінуў падкрэсліць:

Сябры, калегі і радня,
нябожчык
Прайшоў са славай свой
зямны маршрут,
Хоць, праўда, некалі,
у маладосці
Спазніўся на гадзіну й
пяць мінут!

У саркастычнай форме выкрыта ў вершы небяспечнасць сілы інерцыі аднойчы дадзеных характарыстык. Варта прыгадаць з гэтай нагоды словы французскага гісторыка Гайяра: «Пачніце чалавека дапякаць за погляды, якія яшчэ не сталі яго ўласнымі, і вы прымусіце яго засвоіць гэтыя погляды».

Дасціпна вырашана задума верша «Сон паэта-наватара», у якім паэт Антон Дзяўбень, накрэмзаўшы том вершаў пад назвай «Антылірыка», патэпаў у выдавецтва па ганарар. Вельмі ж разгубіўся ён, калі касір холадна прамовіў: «Вы нам павінны антыганарар—пяцьсот рублёў...

І для пацехі — падміргнуў
паэту:
— Ды гэта што? Вы танна
адрабіліся!
За антылірыку—маленькі
штраф.
Скажыце дзякуй богу, што
няўрокам
Не ўздумалі антыраман
пісаць:
па вушы самыя ў даўгу
сядзелі б!..»

Што да заўваг, дык трэба сказаць,—трошкі няўтульна сярод іншых адчувае сябе верш «Казка без канца—для школы і для дому—пра Дзіму Ласунца і пра бабулю Домну». Няварта было ўключаць таксама ў зборнік верш «Камароўка», напісаны гадоў пятнаццаць назад. Хацелася б бачыць у некаторых вершаваных радках больш дынамікі, напружанасці.

Ёсць у зборніку верш «Салаўіная бяда паэта», верш пра салаўя, які, ведучы трэль, абавязкова заплюшчвае вочы. У такія хвіліны часцей за ўсё можа напаткаць пяюна бяда. Заканчваецца верш так:

Паэт! Гуляй і цешся
рытмамі!
Але, падобна салаўю,
Не трэба, брат, з вачмі
закрытымі
Бяздумна весці трэль сваю.

Здаецца, парада гэтая тычыцца не толькі адных паэтаў.

**Анатоль ГРАЧАНІКАЎ.**

Н. Гілевіч. «Ці грэх, ці 2». Гумар і сатыра. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1970.

НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ

Малюнкі Г. Паплаўскага да кнігі М. Кругавых «Дарога ў мужнасць», якая рыхтуецца да выдання ў выдавецтве «Беларусь».

# ВЫКРЫЦЦЁ ТАЯМНІЦ? НЕ ТОЛЬКІ...

ЦІ ВЕДАЕЦЕ вы, якія дзіўнаватыя і натуральныя метамарфозы часам адбываюцца з камедыяй «Хто смяецца апошнім» на розных сцэнах? А яны вельмі цікавыя. І нечаканыя. Скажам, артысты Кіргізіі ўносілі ў характар таго ж Гарлахвацкага нешта ад свайго тэмпераменту, ад свайго ўяўлення пра кар'ерыста. А ўкраінскі Туляга выглядаў у нечым істотным для гэтага вобраза не такім, якім мы бачылі яго ў выкананні Г. Глебава на беларускай сцэне. А ў спектаклі Маскоўскага тэатра сатыры 1940 года Р. Корф даваў яшчэ адно, зусім адметнае тлумачэнне прыроды гэтага персанажа. Пагодзімся, што наша тэатразнаўства пакуль што рэдка займаецца такім параўнаўчым аналізам адных і тых жа п'ес у розных сцэнічных інтэрпрэтацыях. Ведаць жа гэта карысна і драматургам, і акцёрам, і гледачам.

А такія звесткі пакуль што вы знойдзеце ў кніжцы, напісанай амаль зусім не «пра гэта» — яна называецца «Тэатр адкрывае заслону» і адрасуе яе аўтар Анатоль Сабалеўскі юным чытачам. Спачатку здаецца, што напісана яна з мэтай папулярна паказаць «таямніцы» сцэнічнага мастацтва, далучыць школьнікаў да творчых працэсаў у рэжысуры, да артыстычных шуканняў, да працы кампазітара і мастака, «завесці» іх у бутафорскі цэх і г. д. — адным словам, растлумачыць, што гэта за з'ява такая — тэатр. Зразумела, у нашы часы нават для большасці школьнікаў, якія глядзяць тэлеперадачы і самі выступаюць у самадзейных гуртках, тое, што было некалі «сакрэтам» для маленькіх наведвальнікаў тэатра, не такое і таямнічае. Гэта ведае А. Сабалеўскі. І піша кніжку, жанр якой умоўна можна вызначыць як даведнік у падарожжы-вандраванні па закулісным свеце, на больш высокім узроўні, чым гэта рабілася яго папярэднікамі - папулярызатарамі. Аўтар давярае юнаму чытачу і гутарыць з ім сур'ёзна пра сур'ёзную творчую працу драматурга, акцёра, рэжысёра, мастака.

Скажам, ёсць у кніжцы раздзел «На сцэне і па-за сцэнай». Тут на прыкладзе адной трупы драматычнага тэатра А. Сабалеўскі раскрывае асаблівасці творчага паглыблення стваральнікаў спектакля ў сутнасць адлюстраваных драматургам жыццёвых з'яў, паказвае, як даволі простае ў тэксце п'есы для павярхоўнага погляду набывае па-мастацку абгрунтаванае і зусім не простае сцэнічнае ўвасабленне (пошук падтэксту — другога плана, лініі скразной дзеі, узаемаразумення паміж партнёрамі, адзінага стылю выканання і г. д.). Зноў жа, здавалася б, аўтар звяртаецца да хрэстаматыйнага прыкладу — ён «запрасіў» чытача на рэпетыцыю чэхаўскага «Дзядзі Вані». Але для кожнага новага выканаўцы сустрэча з даўно ўсім вядомымі словамі ролі — гэта і адкрыццё ў самім сабе нечага індывідуальна новага. І чытач адчувае напружанне творчай працы калектыву, які заўсёды шукае новае аблічча для спектакля, зыходзячы з рэсурсаў сваёй трупы.

Даволі сціплая па памерах кніжка А. Сабалеўскага (каля шасці аўтарскіх аркушаў) мае шырокі дыяпазон: у драматургіі, напрыклад, яна бярэ пад увагу творы К. Крапівы і М. Шолахава, рэпертуар Рэспубліканскага тэатра юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі, гартае старонкі беларускай сцэнічнай Лeнiніяны, а сярод акцёраў называе і аналізуе ролі выдатных майстроў сцэны і маладых выхаванцаў інстытута, якія цяпер складаюць ядро труп у Брэсце і ў Магілёве, у Гродне і ў Віцебску...

Гэта яшчэ адна кніжка выдавецтва «Народная асвета» ў серыі «Дзецям аб прыгожым», якая адрасуецца падлеткам. Мабыць, мы не перабольшым, калі скажам, што і яна сведчыць пра творчы падыход аўтараў і рэдактараў серыі да сваёй задачы — у папулярнай форме весці эстэтычнае выхаванне школьнікаў, даючы ім матэрыял для абдумвання сваіх непасрэдных уражанняў, для параўнання дня сённяшняга ў мастацтве з днём учарашнім, для больш дасведчанага ўспрыняцця жывапісу, музыкі, кіно, тэатра, архітэктуры.

Трапныя назіранні і непасрэдны водгук «аднаго з гледачоў», якім у дадзеным выпадку быў А. Сабалеўскі, нібы пераносяць нас у глядзельную залу на спектаклі. Без надакучлівай дыдактыкі кніжка вучыць успрымаць творы сцэнічнага мастацтва і эмацыянальна, і дапытліва — з веданнем таго, як робіцца той цуд, што завецца тэатрам і хвалюе нас непасрэднасцю ствараемага на нашых вачах жыцця, адлюстраванага ў вобразнай форме. Гэта пашырае далягляд юнага тэатрала і, разам з тым, не пазбаўляе мастацтва таямнічасці, бо кожны раз на сцэне нараджаецца нешта непаўторнае і ў першы раз перад дадзенай аўдыторыяй. А дасведчаны глядач усё роўна не робіцца сумуючым наглядальнікам, яго яшчэ больш чаруе хараство акцёрскага і рэжысёрскага «бачання» свету і чалавека, перададзенае з усім напалам адкрывальніка новага нават у класічных п'есах.

Кніга багата ілюстравана. І гэта зроблена выдавецтвам з добрым разлікам: прачытаўшы нешта пра спектакль або пра акцёра, якога юны чытач цяпер на сцэне і не пабачыць, ён атрымлівае выразнае ўяўленне пра прадмет аўтарскай гаворкі. Кніга ўдалая яшчэ і таму, што А. Сабалеўскі здолеў быць лаканічным: якіх 130 старонак тэксту, а ладны «паток інфармацыі» спалучаецца з удумлівым тэатразнаўчым даследаваннем тэмы.

Пасля кнігі «Тэатр адкрывае заслону» выдавецтва «Народная асвета» ў той жа серыі «Дзецям аб прыгожым» падрыхтавала працу І. Элентуха «Як глядзець карціну», прысвечаную беларускаму жывапісу і яго майстрам.

**В. ІВІН.**

А. Сабалеўскі «Тэатр адкрывае заслону». На рускай мове. Выдавецтва «Народная асвета». Мінск, 1970.

*АГЛЯД РАЁННЫХ І ГАРАДСКІХ ДАМОЎ КУЛЬТУРЫ*

# УДЗЕНЬ І ЎВЕЧАРЫ

— ШТО ТАКОЕ раённы Дом культуры? Гэта—кепская танцавальная зала, маленькая сцэна, на якой выступаюць часцей за ўсё прыезджыя гастралёры, кепскі кінатэатр для жыхароў райцэнтра. Вось і ўсё. А хіба такім павінен быць раённы Дом культуры? Я падкрэсліваю «раённы», — гарачыўся невысокі светлавалосы хлопец у рагавых акулярах. — Ён жа павінен быць метадычным цэнтрам, свайго роду штабам, для ўсіх культасветработнікаў раёна. А які ён штаб? Чаму можна там павучыцца? Ну, сапраўды...—нібы чакаючы падтрымкі, звярнуўся хлопец да сваіх слухачоў.

— Магчыма, вы і маеце рацыю, малады чалавек, але навошта ж абагульняць? Калі ў вас Дом культуры працуе кепска, дык гэта яшчэ нічога не значыць, — даказваў юнаку мажны дзядзька з кароткімі рудаватымі вусамі. — Магу назваць не адзін дзесятак раёнаў, дзе дамы культуры працуюць, як мае быць...

Гэтую размову я пачуў гады дватры назад на рэспубліканскім семінары культасветработнікаў і ўспомнілася яна, калі знаёміўся з работай Касцюковіцкага раённага Дома культуры.

Падобную гаворку можна пачуць і зараз. Праблемы РДК, яго месца ў нашым вялікім паходзе за культуру— непакояць не толькі аматараў мастацкай самадзейнасці.

## ПЕСНЯ З ПЕСНЯЙ СУСТРАКАЮЦЦА

Скажу адразу, сваім знешнім выглядам Касцюковіцкі Дом культуры не вельмі ўражвае: доўгі прысадзісты будынак, і сцэна не дужа вялікая, і зала для танцаў не зусім зручная. Пра кіно ўжо гаворкі быць не можа: працуе новы кінатэатр.

Не так даўно Дом культуры ўяўляў з сябе этнаграфічны музей з выстаўкай твораў народных умельцаў у фае. Чаго толькі там не было! Вырабы з дрэва, з лазы. Ручнікі, посцілкі, сарочкі, вытканыя і аздобленыя ўзорамі яшчэ ў мінулым годзе. Ды якія ўзоры. У асноўным два колеры: чырвоны і чорны, зрэдку чорны і белы.

Гэтая цудоўная выстаўка была уверцюрай да свята этнаграфічнай песні. Рыхтавалі яго доўга і старанна. Дырэктар Дома культуры Уладзімір Васільевіч Мяснікаў, метадысты Людміла Захарава, Уладзімір Шкробаў ездзілі па вёсках, праводзілі рэпетыцыі, дапамагалі падбіраць лепшыя творы з багацейшай песеннай скарбонкі народа.

І вось настаў доўгачаканы дзень...

Каля дваццаці калектываў, больш як трыста самадзейных спевакоў з'ехаліся з усяго раёна. Сцэна расквітнела ўсімі колерамі вясёлкі.

Цалюткі дзень спаборнічалі калектывы, хоць кожны з іх меў права выканаць толькі тры нумары сваёй праграмы. Трохі шкада было: калектывы «не выказаліся» цалкам — рэгламент аказаўся занадта жорсткім.

Аднак нягледзячы на гэта, свята ўдалося. Спецыялісты з Магілёва і Мінска адзначылі высокі ўзровень майстэрства самадзейных спевакоў.

— Цікавых, самабытных песень было так многа, што мы проста разгубіліся. Многія творы запісалі, — расказвала мне дырэктар рэспубліканскага Дома народнай творчасці Ганна Талчынская. — Вядома, не ўсё прайшло гладка, не ўсё было прадумана. Але гэта ж першае свята. Першы блін... І ўсё-такі, на маю думку, «блін» атрымаўся смачны. Свята было сапраўды цікавае, масавае і хвалюючае.

А якім магутным штуршком стала свята этнаграфічнай песні для самадзейных калектываў! Кожны з іх не толькі сябе паказаў, але і другіх паглядзеў, павучыўся ў суседзяў. Шмат чаму навучыліся кіраўнікі хораў, культасветработнікі. Усё гэта паспрыяе далейшаму развіццю мастацкай самадзейнасці ў раёне, развіццю народнай творчасці.

А хіба ж не гэта — галоўны клопат раённага Дома культуры?

Так, развіццё мастацкай самадзейнасці — клопат Дома культуры. У Касцюковічах гэта добра разумеюць і шмат чаго робяць, каб дасягнуць мэты. Тут штогод адбываюцца агляды і конкурсы самадзейных мастацкіх калектываў.

## ШКОЛА ДЛЯ ПАЧЫНАЮЧЫХ

Не сакрэт, спецыялістаў клубнай справы ў нас не хапае. Таму часта ключы ад клубаў дастаюцца ўчарашнім дзесяцікласнікам. З чаго пачынаць? Што рабіць? Пытанні гэтыя хвалююць і тых, хто скончыў спецыяльную навучальную ўстанову. Мне не раз даводзілася чуць ад пачынаючых і ад бывалых культасветработнікаў такое:

— Маладому настаўніку лягчэй пачынаць, чым культработніку. У яго ёсць праграма. А якая праграма — мінімум або максімум у загадчыка клуба? Адзін можа адчыняць дзверы, калі прывязуць кіно, або прыйдуць хлопцы з гармонікам, і будзе лічыць сваю місію скончанай. А другому і сутак не хопіць. Так многа ён возьме на сябе. Бо клубная работа — цэлы акіян, неабсяжнае поле дзейнасці. Тут і патрэбна, так званая, метадычная дапамога. Тут і выступае на першы план раённы Дом культуры...

Вось, каб даць уяўленне пра тое, што такое клуб, і адкрылі ў Касцюковічах школу для пачынаючых культасветработнікаў. Дзесяць дзён вывучае навічок азы клубнай работы: як скласці план, напісаць справаздачу, што такое савет клуба, як правесці тэматычны вечар і г. д. Такая школа мае не толькі практычнае значэнне, а і маральнае: падтрымка і ўвага старэйшых таварышаў акрыляе, сяброўскія кантакты навічка з Домам культуры — гэта той самы якар, які дапамагае ўтрымацца ў першай жыццёвай гавані.

Прывяду характэрны прыклад. Летась Бароньскаўскі сельскі клуб узначаліла Ніна Агароднікава. Прыехала яна з суседняга Хоцімскага раёна, з вёскі Клін, той самай, дзе ёсць вядомы на ўсю Магілёўшчыну хор. Ніна была ў ім завадатаркай. Спадзяваліся, што яна неўзабаве створыць у Бароньках хор, балазе, вёска вялікая, моладзі шмат, але праз месяц прыехала ў райцэнтр са слязьмі і з заявай аб звальненні.

— Нічога ў мяне не атрымліваецца. На рэпетыцыі не збіраюцца, — скардзілася Ніна. — Паеду дахаты...

Ледзь супакоілі яе, адгаварылі. Разам з ёй паехала ў Бароньскі метадыст Людміла Захарава. Правялі рэпетыцыю, адну, другую, памалу справы пайшлі. Галоўнае, Агароднікава паверыла ў свае сілы і зараз працуе някепска.

Праходзіла ў Доме культуры школу Валянціна Войтава. Работа ў клубе спадабалася дзяўчыне. Яна паступіла на завочнае аддзяленне культасветвучылішча. Стала дыпламаваным спецыялістам. Такіх прыкладаў можна прывесці шмат.

## СЕМІНАРЫ БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ

Кожны квартал праводзяцца раённыя семінары культасветработнікаў. Тры дні слухаюць загадчыкі клубаў лекцыі, даклады, дзеляцца вопытам работы. Усё гэта можа быць цікава і карысна, калі як след прадумаць, добра арганізаваць. Там-сям бывае, што ўдзел Дома культуры ў семінары сімвалічны, — ён толькі прадстаўляе свае сцены. У Касцюковічах робіцца інакш. Работнікі РДК не толькі гасцінныя гаспадары, не толькі вучаць і паказваюць у сябе дома. Да кожнага семінара яны рыхтуюць якінебудзь вечар у адным з сельскіх клубаў. Раскажу пра адзін з іх.

Не так даўно ў вёсцы Муравілле пабудавалі новы клуб. Загадвае ім малады хлопец Анатоль Ломараў. Спецыяльнай адукацыі ён пакуль не мае, вопыту — таксама. Таму важна і яму памагчы напачатку, і паказаць іншым, што можна зрабіць у любым клубе.

Мясцовы журналіст Сямён Пацёмкін напісаў сцэнарый. Метадыст раённага Дома культуры Людміла Захарава прыехала ў Муравілле і разам з загадчыкам клуба рыхтавалі тэматычны вечар «Камунізму — наша натхнёная праца». Удзельнічалі ў ім усе культработнікі раёна.

Са сцэны выступалі даярка, трактарыст, брыгадзір. Проста і шчыра гаварылі яны аб сваёй працы, аб дасягненнях у гонар надыходзячага партыйнага з'езда. Потым мясцовыя самадзейныя артысты па заяўках лепшых працаўнікоў калгаса выконвалі песні. Прагучалі і сатырычныя частушкі. Давялося пачырванець некаторым бракаробам-механізатарам, аматарам зазірнуць у бутэльку.

Было ўжо позна, але вокны клуба ўсё яшчэ свяціліся. Культасветработнікі абмяркоўвалі тэматычны вечар, выказвалі заўвагі, што атрымалася ўдала, а што магло быць лепей.

Вось такі быў гэты семінар.

## ШТО ЎМЕЕ МЕТАДЫСТ?

Яшчэ з дзяцінства палюбіла дзяўчынка песні. Выступала са школьнай сцэны, спявала з сяброўкамі, калі па рацэ плылі крыгі — гукала вясну. А як добра спявалася, калі надвячоркам вярталіся дзяўчаты з поля! Рэха далёка разносіла звонкую чыстую мелодыю...

Калі настаў час выбіраць дарогу ў жыццё, Люда Захарава доўга не раздумвала — паступіла на харавое аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча. Па накіраванні прыехала ў Касцюковічы і ўжо добры дзесятак гадоў працуе тут. Працуе творча, з захапленнем. Сама выступае на сцэне. І калі вядучы аб'яўляе яе прозвішча, у зале ўспыхваюць апладысменты. Спявала Людміла ў Мінску, у Маскве, у Зорным гарадку. Як памяць аб гэтым, яна зберагае грамату, якую ўручыў касманаўт Павел Паповіч.

Разам з агітбрыгадай Дома культуры Захарава аб'ездзіла ўсе вёскі раёна. Ведаюць яе ўсюды. І калі яна прыязджае ў сельскі клуб, ахвотна збіраюцца на рэпетыцыі. Часта заглядвае Захарава ў Белую Дуброву. Тут цікавы хор, які выступаў з поспехам нават у Мінску. Кіруе ім на грамадскіх пачатках настаўніца-пенсіянерка Ганна Сямёнаўна Глазоўская. Спяваюць жанчыны старадаўчія народныя песні, спяваюць добра, па-майстэрску, і ўсё-такі заўсёды рады метадысту Дома культуры.

— Паслухайце нас, Людміла Яфімаўна, мо падкажаце што якое. Ну, бабанькі, давайце паспяваем, — Глазоўская, хаваючы хваляванне, сціпла адыходзіць убок.

Слухае метадыст, ды і сама пачне падцягваць. Задаволена ўсміхаюцца жанчыны. Значыць, усё добра. Вядома, на развітанне у Захаравай знойдзецца шмат заўваг і парад, а потым, нібы спахапіўшыся, яна прамовіць:

— Ой, ледзь не забылася. У мяне ж няма гэтай песні. Трэба запісаць...

Ужо некалькі гадоў збірае Людміла народныя песні, а іх жа ў прыбесядскіх вёсках столькі — не перапрыслухаеш.

Міволі задумваешся: эх, каб нам паболей такіх улюбёных у сваю справу спецыялістаў!

## РАБОТЫ—НЕПАЧАТЫ КРАЙ

Быў цёплы вечар. На вуліцы цьмяна паблісквалі ліхтары, ахутаныя туманам. Зусім не верылася, што гэта студзень. Мы сядзелі ў пустым і гулкім фае з баяністам Анатолем Тарасавічам Турпаковым. Да вечара-адпачынку, а дакладней — танцаў, заставалася яшчэ добрая гадзіна.

— Танцы зараз бываюць не так часта. Сёння, во — нядзеля, ды студэнты папрыязджалі на канікулы, дык трохі збяруцца. А так не ідуць. Ахвотней ходзяць у кіно. А яшчэ ахвотней глядзяць дома тэлевізары. Не адрываючыся ад канапы, — Анатоль Тарасавіч уздыхнуў, памаўчаў:— Добрая ў нас агітбрыгада. Ездзім многа. Свой аўтобус. Усё, як мае быць. Гэта ж не жартачкі — летась далі больш шасцідзесяці канцэртаў... А вось у самім райцэнтры сёе-тое ўпускаем. Колькі здольных людзей у аўтабазе, сельгастэхніцы, бытавым камбінаце, а ўдзельнічаюць у самадзейнасці адзінкі. Тут многае залежыць ад кіраўнікоў прадпрыемстваў. Ад таго, ці любяць яны мастацтва. Вось, напрыклад, галоўны ўрач райбальніцы Казакоў. Сам спявае ў хоры, ніводнай рэпетыцыі не прапусціць. Затое і хор там заўсёды ў форме. Не толькі перад аглядамі...

Амаль пра гэта ж гаварыў мне і загадчык аддзела культуры Міхаіл Юр'евіч Беленькі. І пра тэлевізары, якія ўвогуле не перашкода для клубнай работы, а саюзнікі, толькі выкарыстоўваць іх мы яшчэ не ўмеем, і пра лекцыі, на якія не збіраюцца слухачы, і пра тое, што ніяк не ўзаб'юцца на метадыста па танцах.

— А галоўнае — трэба пазбаўляцца прымітывізму. Людзей не падманеш. Як цікавы вечар, добры канцэрт, або свята песні, дык паўнюткая зала. З усяго раёна з'язджаюцца. Аўтобусы ходзяць усюды. А калі дзеля «птушкі» мерапрыемства — пуста, — працягваў гаворку загадчык.

Нельга з гэтым не пагадзіцца.

...Удзень і ўвечары ідуць і едуць людзі ў Дом культуры.

Едуць з далёкіх і блізкіх вёсак раёна, бо нездарма ж Дом культуры называецца раённым.

**Л. ЛЯВОНАЎ,**
**спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».**

*НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ*





**З двума новымі спектаклямі пазнаёміў гледачоў Магілёўскі абласны драматычны тэатр. На здымках вы бачыце сцэны з гэтых спектакляў.**

**Уверсе—артыстка Нэлі Караткевіч у ролі Машы і народны артыст РСФСР Мікалай Радзіёнаў у ролі Забродзіна ў спектаклі па п'есе І. Штока «Ленінградскі праспект». Паставіў спектакль заслужаны дзеяч мастацтваў Армянскай ССР Барыс Філіпаў, мастак Марк Волахаў.**

**Унізе — сцэна са спектакля «Амністыя» па п'есе М. Матукоўскага. Ізабела Дрозд — Інга Хацяноўская, Рыгор Салавейчык—Уладзімір Гурчанкаў. Пастаноўку ажыццявіў заслужаны артыст БССР Андрэй Раеўскі. Мастак Марк Волахаў.**

**ВОДГУКІ, АДКАЗЫ**

# У ЭФІРЫ — ПАЭЗІЯ

22 студзеня ў «Літаратуры і мастацтве» быў надрукаваны артыкул Ф. Яфімава пра радыёчасопіс «Паэзія» («Паэтычны радыётэатр»).

У артыкуле ёсць шэраг слушных заўваг, напрыклад, пра падбор арыгінальных вершаў і перакладаў, пра выступленні перад мікрафонам паэтаў,—піша нам галоўны рэдактар літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага радыё А. Залеўскі.—Мы пастараемся як найлепш і з карысцю ўлічваць іх на далейшае. Шкада, што аўтар артыкула Ф. Яфімаў рэцэнзіруе пераважна тэксты твораў, што гучаць у нашых перадачах «Паэзія». З-пад увагі яго выпалі такія асаблівасці радыёчасопіса, як артыстычнае выкананне, музычнае афармленне, рэжысёрская работа. Спадзяёмся, што газета яшчэ будзе пісаць пра «Паэзію», пра літаратурнае вяшчанне Беларускага радыё і закране гэтыя творчыя пытанні.

# СЛАЎНАЯ ДАЧКА УКРАІНЫ

## *Да 100-годдзя з дня нараджэння Лесі Украінкі*



**Б**РАТНІЯ народы, народы-суседзі не толькі жывуць побач і родняцца адзін з адным, дзелячыся хлебам надзённым і п'ючы воды з супольных рэк і крыніц, але і па-братняму абменьваюцца здабыткамі сваёй духоўнай культуры. Сапраўдная дружба ніколі не бывае нямой. Выразнікі запаветных дум і спадзяванняў народа—яго вялікія паэты і песняры—гавораць ад імя свайго народа, яго голасам, —і ў гэтым іх вялікая місія і чэсць быць паўнамоцнымі прадстаўнікамі ва ўзаемасувязях і ўмацаванні дружбы паміж народамі.

Жыватворчыя крыніцы ўкраінскай Валыншчыны і крыніцы беларускага Палесся не толькі блізкія геаграфічна ў адносінах этнаграфічных межаў дзвюх савецкіх рэспублік. Яны выцякаюць з адных і тых жа глыбінных гістарычных вытокаў.

**Чаму ў сэрцы беларускім**
**Песня Тарасова**
**Адгукнулася, запела**
**Зразумелым словам?**

**Чаму вецер з Украіны**
**З думкаю крылатай**
**Далятаў да Беларусі**
**І шумеў над хатай?**

**Бо йшла доля беларуса**
**З доляй украінца**
**Аднолькава—ў поце, ў слёзах**
**Церневым гасцінцам**

**Бо згіналі аднолькава**
**З малку да сканання**
**Шыі ў ёрмах, і чакалі**
**Яснага світання.**

Так вызначыў наш беларускі «гусляр»—Янка Купала гістарычны лёс нашых братніх народаў, і так яно было. У змрочныя часы няволі гучалі на Украіне прызыўныя заклікі на барацьбу за волю, роўнасць і брацтва ў вершах Лесі Украінкі, а ў Мінску і Вільні—яе равесніца і сястра, такая ж палымяная наша паэтэса і рэвалюцыянерка Цётка—Алаіза Пашкевіч клікала беларускі народ «разам з рускім і ўкраінцам бараніць свабоду».

Леся Украінка—слаўная дачка свайго народа—наша родная сястра не толькі тым, што яна зазнала смак «горкага дыму» ў курных хацінах валынскага і беларускага Палесся: яна наша сястра і па кроўных чалавечых сувязях. Ушаноўваючы памяць вялікай паэтэсы-рэвалюцыянеркі, Беларусь кладзе ў вянок ёй сваю шчырую любоў і павагу, і вялікі вянок з лепшых кветак сваёй квітнеючай зямлі на магілу сына Беларусі — Сяргея Канстанцінавіча Мяржынскага, рэвалюцыянера-дэмакрата, друга і таварыша Лесі, пахаванага на брацкіх могілках у Мінску.

Мы ганарымся тым, што на старадаўнім бруку нашага стольнага Мінска засталіся сляды паэтэсы, якая неаднаразова прыязджала, жыла і—як ні наракаць на лёс!—пахавала свайго вернага друга ў нашым горадзе.

Яе песні жывуць неразлучна з намі і зараз, і многія з іх, любоўна перакладзеныя беларускімі паэтамі і выдадзеныя двума тамамі, гучаць, як родныя, па-беларуску. За векі вякоў не сатруцца ў памяці ўдзячных патомкаў імёны тых, хто аддаў сваё палымянае слова на ўзбраенне рэвалюцыйных мас, «сеяў разумнае, добрае, вечнае».

І ў ліку гэтых імён—імя слаўнай дачкі Украіны—вялікай паэтэсы-рэвалюцыянеркі Лесі Украінкі, 100-годдзе з дня нараджэння якой адзначаецца ў гэтыя дні.

●

**Вечна цярновы вянок**
**будзе царскай кароны прывабней,**
**Шлях на Галгофу заўсёды**
**велічней гордых трыумфаў.**
**Так спакон веку было**
**і так яно будзе заўсёды,**
**Покуль жыве чалавек**
**і покуль расці будзе цёран.**

**Ды толькі тады зможа стаць**
**вянцом з голля цёрна пляцёнка,**
**Як вольны душой чалавек**
**сам увянчаецца ёю,**
**Горда, адважна з сябе**
**скіне квяцістыя транты**
**Дзеля высокай красы—**
**не той, што крычыць на базары:**
**«Добрыя людзі, бярыце,**
**я кожнаму ў рукі даюся!».**

**Велічны шлях на Галгофу,**
**калі чалавек разумее,**
**Чаго і куды ён ідзе,**
**не прагнучы іншых трыумфаў,**
**Велічы дзеля высокай—**
**не той, што з прастола гукае:**
**«З божае ласкі я цар,**
**бо, гляньце, сяджу на прастоле!»**

**Хто ж без адвагі, без волі**
**цёрнам дае сябе раніць,**
**Сілы не маючы досыць,**
**каб ад шыпоў бараніцца,—**
**Божа, крыві пашкадуй той,**
**што церні напоіць дарэмна:**
**Лепш бы на твары яна**
**чырванню ўцехі зайграла,**
**Вабіла вочы камусьці**
**ў дзень бесклапотнага свята!**

**Кліч Прамятэя лунае**
**безліч вякоў скрозь па свеце;**
**Ён заглушае сабой**
**раскаты грамоў алімпійскіх.**
**Тысячы тронаў упалі**
**і чалавечых і боскіх,**
**Але цітанава круча**
**вечна стаіць, як цвярдыня**
**Духа таго, што ляціць,**
**нібы ўраган безупынны,**
**Іскру, узятую з неба,**
**ў магутны агонь раздзьмухае.**

**Струны старыя звіняць**
**пад тымураганам лагодней,**
**Чым у руках віртуозаў**
**звіняць срэбраструнныя арфы,**
**Дбайна настроеныя**
**для дыфірамбаў лісліўых.**
**Так спакон веку было**
**і так яно будзе заўсёды,**
**Покуль жыве чалавек**
**і покуль звінець будуць струны.**

**Толькі той кліч Прамятэя**
**ўторыць на струнах сумеюць**
**Рукі таго, хто трымае**
**іскру нябесную ў сэрцы,**
**Род свой вядзе з Прамятэя**
**і спадчыну продкаў шануе,**
**Іншую любіць красу—**
**не тую, што скрозь на базарах**
**Рукі да бубнаў заве,**
**а ногі—да скокаў бязладных.**

**Той Прамятэя нашчадак,**
**даступны да струн самых лепшых,**
**Пальцы сатрэ да крыві**
**аб валовіны струны грубыя,**
**Сэрца рыданнем даскажа**
**тых струн недапетыя жалі,—**
**Знаючы добра цану**
**музыцы, струнам, музыкам,**
**Ён не прадасць сваю песню**
**за арфу, што золатам ззяе.**

30.XI.1900 г.

**Пераклаў Хв. ЖЫЧКА.**



●

**Гавораць вусны: «ён навек загінуў!»**
**А сэрца кажа: «не, ён не пакінуў!»**
**Ты чуеш, як звініць і як трымціць струна!**
**Дрыжыць, нібы сляза гарачая, яна,**
**І б'ецца заадно у глыбіні са мною:**
**«Я тут, я толькі тут, я казаўжды з табою!»**

**Калі забыцца ў песнях я хачу пра муку,**
**Ці хтосьці мне пацісне шчыра руку,**
**Ці, як ручай, размова пацячэ,**
**Ці пацалунак вусны апячэ,**
**Душа трымціць лагоднаю струною:**
**«Я тут, я толькі тут, я назаўжды з табою!»**

**Ці ў свет іду таемных летуценняў,**
**Дзе постаці лунаюць, быццам цені, —**
**Знаёмыя і дзіўныя аблічны,**
**Ды зноў душу знаёмы голас кліча,**
**І, як струна звініць, пяе з журбою:**
**«Я тут, я толькі тут, я назаўжды з табою!»**

**Ці сон павольна наплыве, як хмара,**
**А ў стомленай душы не патухае мара,**
**Зноў праз цяжкія сны і хваляванні**
**Я раптам чую голас любай здані,**
**Трымціць тужліва з дзіўнаю журбою:**
**«Я тут, я толькі тут, я назаўжды з табою!»**

**І кожны раз, як ён струну кране,**
**Трымцяць у сэрцы кветкі у мяне,**
**Што ты не здолеў за жыццё сарваць,**
**Што не хацеў іх у труну схаваць,**
**Трымцяць і шэпчуць заадно са мною:**
**«Цябе няма, але я ўсё з табою!»**

7.VI. 1901 г.

**Пераклаў С. ГРАХОЎСКІ.**



## ДЫМ

*УРЫВАК*

**«И дым отечества нам сладок и приятен»,—**
**Завучаны, знаёмы афарызм,**
**Яго ўвесь час я паўтарала ў думках,**
**Пад вечар праязджаючы ў вагоне**
**Праз італьянскія палі і горы,**
**І мне здавалася,—перада мной**
**Радзімыя паселішчы і вёскі:**
**Ідуць дзяўчаты з песняй да сяла,**
**Пастух к падворышчам кіруе статак,**
**Дзе ўжо з дайніцамі стаяць кабеты,**
**Чакаючы рабых сваіх малочніц;**
**Гаспадары, закончыўшы работу,**
**Без подбегу вяртаюцца дадому,**
**Тайком паглядваючы на дымок,**
**Што па-над комінамі ўецца ў неба,**
**І думаюць: «Вось зараз і вячэра»...**
**Перада мной, як марыва ў смузе,**
**Была Валынь з расістымі лугамі,**
**Акаймаванымі зубчатым лесам,**
**Як сіняй стужкай плыннае ракі,**
**І па-над гэтай зеленню і сінню—**
**Цяжкая навісь шэрага туману...**

**Гэй, вы, заначаваўшыя на волі,**
**Бліжэй прысаджвайцеся да агнёў —**
**Плыве туман з сястрою вераломнай—**
**Балотнаю трасучкай-малярыяй!**

**Але начлежнікам туман не страшны:**
**Гарыць касцёр на ўзлессі, і хлапцы,**
**На вогнішча бярэмям валяць хворост.**
**Шугае полымя, і іскр раі,**
**Як залатыя пчолы, рвуцца ў неба...**

**«Бліжэй к агеньчыку!»...**
**Чужая даль,**
**Чужыя мазанкі без камінаў**
**З курадымам вячэрнім (каб «паленту»**
**Прыгатаваць, не трэба шмат агню);**
**Чужыя забалочаныя нівы**
**Са страшнай, вострай назваю «рызаца»,**
**Дзе ў камарыным царстве малярыя**
**Ні дыму не баіцца, ні агню.**
**Усё чужое, нават грукат кол**
**Раз-поразу выстуквае: «чужына».**

**Тунэль! І праз вакно ўварваўся дым**
**Гаркавым воблакам—дыханне схлупіў.**
**Нядобры дым, благі, відаць, іх вугаль.**
**У дымных куранках майго Палесся**
**Таксама дымна, але так не горка...**
**Ах, як там на вяселлях пелі дружкі!**
**Звінела ўсё—і хата, і застолле,**
**І звон быў чысты, як сляза, хаця**
**Аблічны пеўчых патаналі ў дыме.**
**Той горкі дым нам вочы выядаў,**
**Ды ўсё ж не так, як гэты: мо таму,**
**Што быў ён з дроў асінавых, з калодак,—**
**А дым айчыны нам прыемен і салодак.**

**Пераклаў Язэп СЕМЯЖОН.**





Мал. В. ТАРАСАВА.

Барыс СТРАЛЬЦОЎ

*НАВЕЛА*

# СТАРАСЕЛЬСКАЕ ЗАСТОЛЛЕ



ЗА ТРОЕ СУТАК мы паспыталі рыбацкага шчасця на ўсе лады і амаль здаволіліся. А, здаволіўшыся, убачылі, што вакол, акрамя рачных віроў, перакатаў і плёсаў, існуе шмат іншых цікавых рэчаў. Хоць бы вунь той лабаты пагорак, разрэзаны натрая ярамі-вужакамі, скрозь зарослымі сіваватым арэшнікам. А паміж ярамі, збягаючы няроўнымі купамі да самага абалоніішча, буяе чырвонагаловая канюшына. Пэўна адтуль і плыве на млявы бераг Случы безупыннае гудзенне: пчолы мёдам запасаюцца.

— Мядку б зараз, свежанькага...

Гэта Ігар Паўлавіч сказаў услых тое, што мне падумалася. Мы з ім адзін перад адным навыперадкі хвалілі юшку з дымам і печаных на вуголлі печкуроў. Хвалілі дзень, хвалілі другі... А што было рабіць? Іншыя ж запасы, акрамя хлеба, цукру і спецый, мы браць з сабой адмовіліся наадрэз, шчыра перакананыя, што рыбай можна харчавацца хоць увесь водпуск.

— У цябе тут знаёмых няма? — хітравата прыжмурыўся ў мой бок Ігар Паўлавіч. — Ты ж некалі хваліўся, што з'ездзіў усё удоўж і ўпоперак.

— Дзіва што.

— От і было б дзіва, каб ты расстараўся які корчык мёду. З чайком бы яго, ля цяпельца...

— Удваіх падамося?

Ігар Паўлавіч падняў галаву ад рукзака, які яму быў за падушку, перакаціўся на мурагу бліжэй да мяне і спытаў:

— А далёка?

— Кіламетраў з дзесяць.

— Уга! — вырвалася ў Ігара Паўлавіча. Крыху памаўчаўшы, ён уздыхнуў і паскардзіўся: — Ведаеш, мне здаецца, што я ўсё жыццё на нагах. Ну, не ўсё, а з тае пары, як стаў галоўным... Таму лічу зараз гарызантальнае становішча за вялікае шчасце, якое няварта мяняць нават на мёд.

Мой сябар апошні час працаваў галоўным інжынерам на заводзе. У кабінеце ён сядзець не любіў, а бегаў з цэха ў цэх з раніцы да вечара. Да ўсяго хацеў дапяць сам.

— Ну, то ляжы. Сам схаджу.

— Ага, ага, — узрадаваўся Ігар Паўлавіч. — А я тут палатку пасцерагу. Усё ж наша так не кінеш. Адны спінінгі чаго варты...

Мне, шчыра кажучы, не надта каб і карцела падбіваць Ігара Паўлавіча ў дарогу. Тут непадалёку старшыняваў у калгасе мой даўні знаёмы Сяргей Іванавіч Палішчук. І хацелася з ім сустрэцца сам-насам, прыгадаць тое-сёе, спакойна пагаманіць.

Паклаўшы ў апрастаны ад рыбацкага начыння рукзак трохфунтовага шчупака і пусты літровы слоік, я пашыбаваў напрасткі цераз поплаў і далей па ўскрайку сасняку на гравійку — колішні клопат таго ж Палішчука. Ён марыў мець добрую дарогу з калгаса ў райцэнтр і дамогся свайго, як толькі гаспадарка стала на ногі. Гравійка не абрывалася, як звычайна, ля вёскі, а вяла пад самы ганак калгаснай канторы.

Распарадак дня Сяргея Іванавіча не памяняўся. Некалі яго можна было спаймаць у канторы толькі ўранні і надвячоркам. І вось зараз было відно, што ён нядаўна вярнуўся з поля. Абветраны, наскрозь прапылены, Палішчук абмякла сядзеў за шырокім сталом і, неяк стомлена варухнуўшыся ў крэсле, пэўна, не маючы сілы ўстаць, працягнуў мне руку.

— Маё шанаванне. На якіх вятрах?

Я аджартаваўся:

— Калі б то на вятрах, а то на сваіх дваіх.

Палішчук, акінуўшы мяне ацэньваючым поглядам, пазайздросціў:

— Рыбаліш у нашых краях? А мне во ўсё некалі. Случ пад бокам, а я мо з год не бачыў паплаўка на вадзе.

— Што той паплавок, калі рыба табе сама ў рукі плыве, — не ўцярпеў, каб не пахваліцца, я і, шмаргануўшы завязку рукзака, падчапіў пальцамі шчупака за шчэлепы.

— О-о! — Палішчук разам з крэслам выкаціўся з-за стала. — Прагрэс, браце, прагрэс. Бачу, ад малявак на сур'ёзную рыбу перайшоў. На фаршыроўку, праўда, малаваты, а для патэльні ў самы акурат...

Узяўшы з маіх рук шчупака, Сяргей Іванавіч павагаў яго ўверх-уніз і з нейкай напускной скрухай зачмокаў:

— Э-цэ-цэ-цэ, шкада. От жа шкада. Прападзе твой улоў. І не паспытаеш, які ён на смак.

— Чаму гэта шкада? Як не паспытаю? — не зразумеў я.

— А так што не паспытаеш. Бачыш, вунь машына ідзе, — кіўнуў галавой на акно Сяргей Іванавіч.

Сапраўды, да канторы падкаціў і, рыпнуўшы тармазамі, спыніўся ахутаны воблакам белага пылу пашарпаны газік.

— Ну, дык вось, — працягваў Палішчук, — зараз мы з табою паедзем у Стараселле, а шчупака аддадзім Валодзьку, майму шаферу. Няхай ён паласуецца.

— А што ў тым Стараселлі?

— Брыгадзіра тамашняга, Аляксея Капацэвіча, помніш?

Я, вядома, помніў Капацэвіча. Мы з Палішчуком некалі сустракалі яго на станцыі, калі хлопец, дэмабілізаваўшыся, вярнуўся дадому. Пасля ён працаваў на трактары, і мне давялося пісаць пра Аляксея ў газету. А цяпер ён, значыцца, ужо ў брыгадзірах ходзіць.

— Радасць у Алёшкі, — голас Палішчука пацяплеў, а ў вачах, з якіх нібы ссунуліся шторкі стомленасці, успыхнулі светлячкі. — Наследніка займеў, сынка. Ну, дык сам разумееш, свята без застолля не бывае. От і паедзем зараз.

— Куды мне! — запярэчыў я. — У такіх строях ды за стол?

Сяргей Іванавіч, прыжмурыўшыся, кінуў вокам на маё рыбацкае ўбранне і супакоіў:

— Нічога, нічога. Па дарозе да мяне заскочым. Дам тэніску. У штаны мае, праўда, двое такіх увойдуць. Ды дарма. За сталом яно і лацвей, калі свабодна ў поясе...

Палішчук адкінуўся на спінку крэсла і зарагатаў. Яму спадабаўся ўласны жарт. Быў такі грэх за маім сябрам: любіў Сяргей Іванавіч пасядзець за сталом, асабліва з добрай кампаніяй.

Праз якія поўгадзіны мы былі ў Стараселлі. Валодзька ліха падкаціў да вялікага дома, вакол якога яшчэ валяліся трэскі, абрэзкі дошак і кавалкі шыферу. Усё сведчыла, што гаспадар толькі-толькі пазбавіўся клопату забудоўшчыка і, заняты іншымі справамі, не паспеў навесці поўны парадак на сядзібе. Аляксей Капацэвіч, у белай вышыванай кашулі, сініх галіфэ з чырвонай акантоўкай і начышчаных да бляску хромавых ботах, саскочыў з ганку і рыўком адчыніў дзверцы.

— У самы акурат...

Палішчук, крактануўшы, першы вылез з машыны і буркнуў:

— А калі б не ў акурат, то што, не пусціў бы?.. Не дужа б і плакалі...

Аляксей развёў рукамі:

— Ну, што вы, Сяргей Іванавіч...

— Эт, артыст, — крутануў галавой Палішчук. — Ну, добра, добра, не падладжвайся. Нябось лаяў ужо ў такую і разгэткую... На вось лепш, трымай. Гэта ад нас дваіх, — Сяргей Іванавіч паклаў на рукі Аляксею вялікі, загорнуты ў блакітную паперу пакунак, які нямаведама калі апынуўся ў машыне:

— Дзякуй... Навошта гэта?

— А на тое, каб вы са Сцепанідай сына весялей гадавалі, — Палішчук абняў Аляксея за плечы. — — Ну, вядзі ў хату...

Прасторныя сенцы дзялілі дом надвая. Праз шырока расчыненыя дзверы на левую палавіну мы ўбачылі, што госці былі ў зборы. За сталамі, расстаўленымі ўпрытык уздоўж трох сцен, сядзела не меней як чалавек восемдзесят. Мужчыны і кабеты. Старэйшыя і маладзейшыя.

— Уся брыгада? — хмыкнуў Палішчук.

— Як мае быць, — пацвердзіў Капацэвіч.

— Ну, дык ты ў галаву стала, а мы вось тут, каля дзяўчат.

— Глядзіце, дзе вам лепей, — пагадзіўся гаспадар. Ён, відаць, прывык, што Сяргея Іванавіча ўгаворамі не возьмеш.

Кабеты, смеючыся ў рукавы, рассунуліся, і мы з Палішчуком уладкаваліся непадалёку ад дзвярэй. Аляксей жа сеў за стол у цэнтры. Не бавячы часу, ён наліў сабе з пузатай пляшкі поўны кілішак і, трымаючы яго ў выцягнутай руцэ, устаў.

Я пашарыў вачамі перад сабой, потым улева, управа і адчуў сябе ніякавата. На стале было поўна смажанага і варанага, салёнага і марынаванага, скрозь стаялі бутэлькі, на талерках ляжалі відэльцы і нажы. Не хапала толькі чарак.

Аляксей між тым, быццам і не зважаючы на тое, што ні ў кога з гасцей не было наліта, запрасіў:

— Ну, дарагія госцейкі, пачнем. Чым хата багата, тым і рада.

Выпіў сам. І, зноў наліўшы кілішак да краёў, паставіў яго перад суседам справа. Той, доўга не вагаючыся, узняўся над сталом.

— Гаспадыні — талерачку, гаспадару — гарэлачку, сынку — долі шчаснае.

І, гэтак жа, як Аляксей, выпіўшы, наліў кілішак і паставіў яго справа ад сябе, перад чарнявай кабетай.

— Алёшкаў дзядзька, Піліп, каваль адмысловы, — шапнуў мне на вуха Палішчук. — А гэта Піліпава кабеціна. Злева каля Аляксея ягоная жонка Сцепаніда...

Я ў сваю чаргу шэптам падзяліўся з Сяргеем Іванавічам сваёй думкай:

— Выходзіць, пляменнік з дзядзькам п'юць, а госці лысыя...

Палішчук прываліўся да мяне бокам і, сціснуўшы пад сталом маю руку, сказаў адными вуснамі:

— Чакай чакай... І слухай...

Чарнявая кабета, павярнуўшыся ў бок гаспадара, перад тым, як выпіць, таксама выдала тост-прыказку:

— Будзь багаты, Аляксей, поўнай хатаю дзяцей...

Аляксей са Сцепанідай усталі і пакланіліся.

(Заканчэнне на 12—13 стар.).

З пошты ЛіМа

## А ДА КАНЦА НЕ ДАВЯЛІ...

Дуброўна — адзін з старажытнейшых гарадоў рэспублікі. Размешчаны на беразе Дняпра, ён у даўнейшыя часы, калі асноўнымі шляхамі зносін з'яўляліся рэкі, быў адным з ажыўленых гандлёвых цэнтраў.

У Дуброўне была мануфактурная фабрыка, якая славілася сваёй тканінай. Тут шырока было развіта саматужніцтва. Пра гэта сведчылі нават назвы асобных вуліц, як напрыклад, Ганчарная, Гарбарная і інш. Шмат было кравецкіх і шавецкіх майстэрань.

Шмат добрых спраў здзейснілі дубровенцы за гады Савецкай улады. Яны былі актыўнымі будаўнікамі першынца беларускай энергетыкі — Белдрэса, першаадкрывальнікамі тарфяных багаццяў Асінаўскіх балот.

Неўміручай славай пакрылі сябе маладыя падпольшчыкі Асінторфа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. На тэрыторыі Дубровеншчыны здзейснілі гераічныя подзвігі многія камандзіры і салдаты Савецкай Арміі, партызаны.

Зараз Дубровенскі край — край выдатных майстроў шаўкавістага кужалю, высокіх ураджаяў збожжа і бульбы, высокай прадуктыўнасці жывёлы.

Пра мінулае і сучаснае прыдняпроўскай Дубровеншчыны маглі б расказаць экспанаты і матэрыялы краязнаўчага музея. На жаль, яго ў Дуброўне няма.

Праўда, некалькі гадоў назад дубровенцы праявілі добрую ініцыятыву, пачаўшы ў цэнтры горада будаваць дом пад музей. Вывелі сцены, зрабілі дах. Так і стаіць гэты незакончаны будынак, як сведка таго, што ў Дуброўне не заўсёды пачатую справу даводзяць да канца. А гораду так патрэбен музей!

А. МАХНАЧ.

## ВАРТА ПЕРАНЯЦЬ

Пачалося з расчаравання: хацеў купіць для ўнучкі кніжку з малюнкам, ды нічога цікавага не знайшоў. Ёсць кніжкі, хоць і не багата, для тых, хто ўжо сам чытае, а для самых маленькіх — не траплялася. І тут у вочы кінулася выданне ГДР «BUMMI», па нашаму — «Мішутка», «Мядзведзік». Выданне шматфарбнае», якраз такое, якое патрэбна малым. А тое, што тэкст на нямецкай мове — не перашкода: унучка ж яшчэ не можа чытаць ні па-беларуску, ні па-руску. Гэтая навука прыйдзе да яе праз якія-небудзь тры-чатыры гадкі, а тым часам бацькі або дзед прачытаюць і раскажуць, што на малюнках.

Я ўзяў адзін з выпускаў (а іх некалькі, бо гэта перыядычнае выданне,— «Ein fröhlicher Tag» — «Радасны дзень»). Пазнаёміўшыся з ім, падумаў: «Малайцы нашы нямецкія сябры! Варта і нам пераняць іх вопыт». І вось я пішу менавіта з гэтай мэтай, думаючы пра сябе: «Хай гэтае насенне трапіць у добрую глебу, хай западзе ў сэрца добрых і шчырых людзей, якія любяць маленькіх дзяцей і турбуюцца аб тым, каб яны з дзяцінства пазналі радасць і раслі духоўна багатымі—яны ж прыйдуць нам на змену!»

Што ж гэта за выданне?

Яно выпушчана ў выглядзе папкі-кішэні, у якой знаходзіцца кніжка-сшытак і патэфонная пласцінка.

На вокладцы напісана, што Бумі наведаў дзіцячы садзік і хоча ў малюнках і песнях расказаць пра гэта. Песень — восем і адно застольнае пажаданне. Усе яны запісаны на пласцінку. Варта паласці яе на прайгравальнік — загучыць песня — суправаджэнне да малюнка. Але гэта не ўсё; у кніжцы-сшытку змешчаны тэксты песень і ноты да іх.

Увагі заслугоўвае і сама кніжка-сшытак. На другой старонцы вокладкі змешчаны зварот да бацькоў і ўказанні, як карыстацца сшыткам-кніжкай. Трэба выняць сярэднія аркушы (16 старонак) і разрэзаць іх па чорных рысках, скласці, як паказвае нумарацыя старонак, тады сшыць кніжку. Атрымліваецца нотны сшытак з тэкстам і кніжка з малюнкамі.

Але і гэта не ўсё: у сшытку-кніжцы ёсць яшчэ малюнкі карткі блакітнага і жоўтага колераў. Іх трэба разрэзаць на-двое, каб, самастойна гуляючы, дзіцё магло з двух палавінак падабраць і скласці малюнак. Гэта — гульня-творчасць, гульня, якая развівае ўважлівасць у дзяцей ясельнага ўзросту.

Карацей кажучы, гэтая іграваая папка-кішэня і гучыць, і забаўляе. Цікава і карысна.

В. ЛЯШЭВІЧ,
пенсіянер.

# ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ АПЕРЭТЫ

**СПЕКТАКЛЬ ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРА МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ БССР «СПЯВАЕ «ЖАВАРАНАК»**

МНЕ ДАВЯЛОСЯ назіраць за нараджэннем гэтага спектакля. Літаральна на вачах ён мяняўся, набываў новыя абрысы. Скарачаліся вялікія кавалкі тэксту, часам цэлыя сцэны. Кампазітар дапісваў арыі і ансамблі. Абнаўлялася музычная драматургія, з'яўляліся фрагменты, важныя па сюжэтнай і вобразнай нагрузцы. Узнікалі новыя рэжысёрскія канцэпцыі.

Гераічная музычная камедыя Юрыя Семянякі «Спявае «Жаваранак» некалькі гадоў ішла ўжо на сцэне былога Магілёўскага абласнога тэатра музкамедыі, дзе склаліся некаторыя яе выканаўчыя традыцыі (а часам і штампы), а літаратурны і музычны матэрыял мог здацца аўтарам «правераным на публіцы» і таму дасканалым. Але гэтага не здарылася. Аўтары працавалі патрабавальна, імкнучыся ўдасканаліць аперэту ва ўсіх кампанентах.

Цяпер яна вынесена на суд гледачоў калектывам Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР.

Тэма, якую ўзнялі кампазітар Ю. Семяняка і аўтар п'есы Н. Калаптур, у нашы дні ўсё больш упэўнена займае месца ў савецкай музычнай камедыі. Гераізм подзвігу, рэвалюцыйная рамантыка, барацьба двух светаў, дзвюх ідэалогій... Не так проста раскрыць усё гэта сродкамі музычнай камедыі, не адступіўшы ад законаў жанру, не згубіўшы «камедыйнага запалу». Новы твор увогуле пазбегнуў гэтай небяспекі, хоць у ім гераічны пачатак і пераважае над камедыйным.

Гераічныя сцэны трымаюць у напружанні гледача, гатовага, аднак, у любы момант «пераключыцца» на іншы настрой — камедыйны. У сцэнах гэтага плана ёсць шэраг цікавых знаходак, добрых дыялогаў.

**На жаль, іх не так многа. Тэкст тут занадта «прыземлены», мала ў ім іскрыстага, вынаходлівага, разумнага гумару, трапляюцца сцёртыя, банальныя, я сказала б, антымастацкія выразы. Напрыклад, абыгрыванне тэмы «куратніка». Дзед Пятро Бусел кажа: «Навошта мне кураняты, калі ў мяне такая тлустая курачка ёсць» (гэта ён пра жонку). Макрына, у сваю чаргу, называе яго «пеўнем абдрыпаным».**

**Іншы раз словы герояў не апраўданы ні паваротам сюжэту, ні іх характарам, яны выпадкова, безгустоўна ўстаўлены «дзеля гумару». Слаўка, напрыклад, кажа Сашы: «Сцеражыся, перад самім Астапам Бендэрам адказваць будзеш», а здраднік Віктор дэ Моль так каменціруе свае ўцёкі ад Савецкай Арміі: «Галоўнае ў нашай прафесіі — у час змыцца»...**

**У аснову музычных нумароў твора — арый, песень, куплетаў — леглі вершы П. Харкова. Ёсць сярод іх удалыя, але, на жаль, трапляюцца радкі, у якіх сэнс падменены наборам рыфмаваных слоў:**

Я не птица, я певица,
В том моя беда.
Нет, я птица, птица, птица,
Птица без гнезда...
Жаворонок, жаворонок,
Птичка неземная,
Жаворонок, жаворонок,
Птичка полевая.

**Асабліва непатрабавальны да сябе аўтар у камедыйных куплетах:**

Дима, Дима, командир,
Наш общественный кумир...
Дима, Дима, лейтенант,
Я не девка, а талант,
Для меня весь день плясать,
Что для писаря писать.

**Хацелася б, каб аўтар яшчэ папрацаваў над некаторымі вершамі, давёўшы іх да такога ўзроўню, які можна было б назваць мастацкім.**

Меладычная, як і заўсёды ў Ю. Семянякі, музыка ўвабрала ў сябе духмяны водар беларускай народнай песні. Мне ўспамінаецца яго першая работа ў жанры аперэты — «Рабінавыя каралі». Несумненна, што ў сваім новым творы кампазітар зрабіў значны крок наперад. У «Жаваранку» выразна выяўляюцца ўсе элементы музычнай драматургіі.

Да лепшых музычных нумароў, безумоўна, належаць партызанскі хор, які стаў гераічным лейтматывам твора; пяшчотны і кранальны хор дзяўчат «Ой, плыве па рэчцы месяц маладзы», арыя Ірыны «О, горад мой!», пабудаваная на псіхалагічных кантрастах, якія складаюць яркі мастацкі вобраз. Цікавыя песня Ірыны «Жаваранак», яе ж арыя-раманс «Здаецца, быццам я лячу». Усё гэта яркія ўзоры вакальнай лірыкі Ю. Семянякі.

Хочацца яшчэ адзначыць меладычную выразнасць танцавальных нумароў — «Вальса», «Полькі», «Пасадобля», «Танга».

Найбольш ярка раскрыта ў спектаклі галоўная гераіня — Ірына. Сутнасць вобраза Ірыны — адданасць Радзіме, мужнасць сапраўднай падпольшчыцы-патрыёткі, любоў да роднага краю, гарачае каханне да Дзмітрыя. Маска яе — беспрынцыповасць прадажнай спявачкі ў нямецкім казіно, якая робіць кар'еру ва ўмовах «новага парадку». Музычная характарыстыка вобраза поўная вастрыні, напружанасці, дынамікі. І разам з гэтым яна ўсхвалявана-трапяткая, пяшчотна-лірычная, поўная глыбокага шчырага пачуцця.

Абедзве выканаўцы партыі Ірыны выступаюць удала. Артыстка Н. Гайда ўпэўнена вядзе ролю, свабодна адчувае сябе ва ўсіх сцэнічных сітуацыях. Безумоўнай і вельмі каштоўнай вартасцю актрысы з'яўляецца голас — лёгкі, багаты на адценні, прыгожага тэмбру.

Ірына ў артысткі В. Мазур пакуль яшчэ бывае скаванай у сваіх сцэнічных паводзінах. Але яна таксама вельмі абаяльная і выдатна валодае голасам — сакавітым і глыбокім. Работы абедзвюх артыстак — удача спектакля. У дужках хацелася б заўважыць, што ў сваіх будучых творах для тэатра нашы кампазітары могуць смела арыентавацца на высокія вакальныя магчымасці спевакоў.

Менш пашанцавала ў спектаклі выканаўцу ролі Дзмітрыя В. Бурцаву. Яго роля аказалася недастаткова дынамічнай і вострай. Але ў рамках магчымасцей створанага аўтарамі вобраза артыст увогуле ўдала спраўляецца з партыяй. У В. Бурцава — добрыя вакальныя дадзеныя. Хацелася б, каб артыст больш свабодна трымаўся на сцэне. У час выканання першай арыі, дзе ён расказвае пра светлыя і глыбокія пачуцці да Ірыны, Бурцаў стаіць спіной да сяброў, рукі амаль «па швах». Мабыць, маецца на ўвазе, што гэта яго ўнутраны маналог, звернуты да глядзельнай залы, але нас не пакідае ўражанне, быццам гучыць асобны канцэртны нумар, не звязаны з дзеяннем спектакля. Тэмпераментна вядуць свае ролі артысты Л. Мацісава (Макрына) і У. Ажарэльеў (Пятро Бу-

*НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ*



**«Пішыце мне, дзеці, па адрасе: горад Гомель, тэатр лялек, мядзведзіку Рымціці». Гэтымі словамі заканчваецца адзін са спектакляў Гомельскага тэатра лялек «Прыгоды мядзведзіка Рымціці», але не заканчваецца дружба паміж гледачамі і артыстамі, якая ўстанавілася ў час спектакля. Пацвярджэнне таму — лісты, паштоўкі і тэлеграмы з розных гарадоў і вёсак Беларусі, якія ідуць да нас у тэатр. За іх мы вам, дзеці, сардэчна дзякуем. Спадзяемся, што многія з вас пабачаць і наш новы спектакль — па п'есе Е. Барысавай «Здарэнні ў лялечным тэатры». У ім вы сустрэнецеся са знаёмым ужо вам Бурацінам, татам Карла, Мальвінай, П'еро і іншымі героямі.**

**Рэжысёр спектакля В. Чарняеў, мастак А. Чабатароў. У спектаклі заняты артысты В. Матрос, Т. Гарачава, В. Курдзюмаў, Л. Гамзюк, А. Заматай і іншыя.**

**Чакаем вас, дарагія сябры!**

**На здымку — сцэна з новага спектакля «Здарэнні ў лялечным тэатры».**

**Н. САБАНАЎ,**
**артыст тэатра.**

# ЖЫЎ-БЫЎ НА СВЕЦЕ...

**«ПРЫНЦЭСА І ДРЫВАСЕК» НА СЦЭНЕ БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРА ІМЯ Я. КОЛАСА**

ЖЫЎ-БЫЎ на свеце звычайны чараўнік-чарнакніжнік Магіяш. Жыў сабе ціха, спакойна, утульна уладкаваўшыся на ўзлеску. Дзень у дзень рабіў сваю прывычную справу: варыў чарадзейнае зелле, заварожваў людзей і жывёл, у чорнай магіі не ведаючы сабе роўных. Даўно ўжо састарыўся, даўно пара яму на адпачынак, на пенсію, а ён працягвае сваё чараўніцтва, прагнучы зла ўсяму жывому.

І раптам, зусім нечакана Чараўнік сам трапляе ў бяду — давіцца слівавай костачкай, захворваючы «жудасным костным чарнаслівітам»... З гэтага і пачынаюцца прыгоды, здольныя захапіць і дарослага чалавека, і юнага гледача, якія трапілі на спектакль у Віцебску. Па сутнасці, гэта добра інтэрпрэтаваная вядомая ў славянскім фальклоры казка, пераробленая ў п'есу «Прынцэса і Дрывасек» драматургамі Г. Волчак і М. Мікаэлян. На сцэне тэатра імя Якуба Коласа з'явілася яркае тэатральнае відовішча, удалы дэбют рэжысёра Уладзіміра Забелы, поспеху якога ў многім садзейнічае багатае фарбамі і выдумкай афармленне мастака А. Салаўёва і вясёлая музыка Э. Калманоўскага.

Чароўны свет казкі пачынаецца з маляўнічай і яркай праграмы спектакля, якую бачыць глядач пры ўваходзе ў тэатр і якую яму адразу хочацца набыць. А ўвайшоўшы ў глядзельную залу, ён ужо не можа адвесці вачэй ад сцэны, дзе бачыць тыя ж яркія фарбы, тыя ж колеры на мудрагелістых кулісах і заслону, выкананую аплікацыяй. Такая ж аплікацыя і ў касцюмах персанажаў і ў шматлікіх мяшэчках Чараўніка, у якіх ён трымае свой чараўнічы інвентар.

На сцэне нічога лішняга, дробнадругараднага няма. Па баках авансцэны, вешалкі і лаўкі, па якіх размясціліся касцюмы, парыкі, бароды, увесь разнастайны рэквізіт. У зале гасне святло, і пад радасную музыку, у добрым тэмпе выбягаюць артысты, апранутыя ва уніформу. Непасрэдна ў прысутнасці гледачоў апранаюць касцюмы казкі персанажы першай карціны. Астатнія выносяць ёлачкі, пянькі, утвараючы з іх умоўную паляну, цягнуць вяроўку, вешаючы на яе бялізну чараўнікоў. А ў гэты ж час, і таксама на вачах у гледачоў, падымаецца заслона спектакля, апускаецца заднік першай карціны, павуціна, і па знаку Магіяша апускаецца велізарны кацёл, з якога валіць пара. Чараўнік з захапленнем і зачараваннем корпаецца ля таямнічага катла, памешваючы ў ім вялікай драўлянай лыжкай. Час ад часу заглядвае ў кнігу «Чарадзейная кулінарыя» і, весела насвістваючы, падсыпае чагосьці ў кацёл. Потым каштуе зелле, моршчыцца. Пляскае камара па ілбе і кідае яго ў кацёл. Зноў каштуе, зноў моршчыцца. З захапленнем ловіць на траве нейкую нябачную казурку, абрывае ёй лапкі, кідае ў кацёл, зноў каштуе і... расплываецца ў задаволенай усмешцы... У зале агульнае ажыўленне: увага гледача ўзята.

Гледачу нічога не патрэбна расшыфроўваць. Ён адразу ж і актыўна ўключаецца ў казачнае сцэнічнае дзеянне, разумее ўмоўную мову тэатра, адкрытасць рэжысёрскага прыёму і на працягу спектакля жыве ў свеце выдумкі і фантазіі. Паўтараю: усё гэта робіцца без націску з боку рэжысуры, адзначанай добрым пачуццём меры і такту.

Непасрэдна на вачах гледача, пад вясёлыя гукі аркестра і простыя смешныя песенькі персанажаў адбываецца перамена дэкарацый і пераадзяванне артыстаў. Гэта надае асаблівы запал спектаклю, садзейнічае адзінаму настрою як у выканаўцаў, так і ў гледачоў, ствapae патрэбную тэатральную атмасферу. У гэтай атмасферы добра адчуваюць сябе і гледачы і самі артысты.

На думку аўтараў, Чараўнік Магіяш — стары, ледзь дыхае, як гаворыць пра яго яго памочнік Злічка. У спектаклі выканаўца ролі М. Цішачкін, як між іншым і ўсе іншыя, не выходзіць за рамкі свайго ўзросту. Магіяш на сцэне гэтакі бадзёранькі, свавольны ашуканец і хітрун, не пазбаўлены гумару і запалу. Ён не проста казачны Чараўнік, а надзелены жывымі чалавечымі рысамі. У яго рэпліках і ча-

# СТАРАСЕЛЬСКАЕ ЗАСТОЛЛЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 11 стар.)**

Чарка хутка пайшла па крузе. Кожны казаў кароткі рыфмаваны тост ці прыказку, выпіўшы, наліваў чарку і перадаваў яе ўправа. Гаспадары пасля кожнага тосту ўставалі і кланяліся...

— Паслухаем, што настаўнік прыпас, — амаль уголас зазначыў Палішчук.

Непадалёку, ужо з нашага боку стала, падняўся мажны хлапчына. Адкінуўшы рэзкім рухам навіслыя на вочы прамыя валасы, ён плаўным паўкругам абвёў рукой застолле.

— Каб свой розум і навука далі сыну сілу ў рукі.

І нібы рой пчол уляцеў у хату. Госці загулі, заварушыліся. Тост прыйшоўся да спадобы.

— Эт, малайчына! — аж закруціўся Палішчук. — Не паўтараецца.

Сяргей Іванавіч памкнуўся ўжо было нешта сказаць настаўніку, ды чарговы тост спыніў яго.

— Прывячайце гасцей, каб на радзіны хадзілі часцей.

І зноў нібы абудзіўся пчаліны рой. Толькі на гэты раз у гудзенні чулася другая нота, быццам без адабрэння. Пачуліся кепікі.

Маладыя кабеты, што сядзелі за Палішчуком, нават заспрачаліся:

— Піліпіха так казала... Было!..

— Было, ды не так...

— Словы другія, а ўсё роўна так...

Далей-болей, і за сталамі знікла скаванасць. Цяпер ужо кожны тост ацэньваўся, абмяркоўваўся. Калі ж суседка Сяргея Іванавіча гарэзліва вы-гукнула гаспадарам «Любіце катацца — любіце і саначкі вазіць», грымнуў агульны выбух рогату.

Пакуль госці сцішваліся, Палішчук, відаць, заўважыўшы маё хваляванне, прыйшоў на выручку:

— Калі нічога такога не прыдумалася, дык скажы хоць так: «Каб у хаце брыгадзіра вырас добры аграном». Прымуць...

І праўда, добра прынялі. Хоць Сяргей Іванавіч адзычыў мне не лепшае са свайго запасу. Сам ён сказаў і адмыслова, і, галоўнае, па-старшынську:

— Хай шануе сын зярнятка: будзе і людзям, будзе і ў сваю хатку.

Яшчэ гучаў апошні тост, а ўжо дзве жанчыны з кошыкамі накшталт тых, у якіх дораць кветкі, пачалі абходзіць гасцей, ставячы перад кожным кілішак, шклянку або кубачак.

— Ну, цяпер пойдзе як звычайна, — у голасе Сяргея Іванавіча, як мне здалося, была нотка расчаравання.

Мы доўга не забавіліся ў гасцях. І зноў Аляк-

МУЗЫКА, МУЗЫКАНТЫ

# ТРЫ ПЯВУЧЫЯ СТРУНЫ

Балалайка... Усяму свету вядомая руская балалайка здабыла сабе канцэртную славу з таго часу, калі ў 80-х гадах XIX стагоддзя балалаечнік, кампазітар і дырыжор Васілій Андрэеў стварыў першы Вялікарускі аркестр. Рускія народныя інструменты, якія лічыліся да таго часу «забавай чэрні», загучалі ў поўную сілу ў раскошных залах, на канцэртных пляцоўках усяго свету. Гэта мела вялікае значэнне для прапаганды рускай народнай музыкі. Андрэеву і яго паплечнікам апладзіравалі Л. Талстой, М. Горкі, Ф. Шаляпін, дзейнасць андрэеўцаў знайшла гарачую падтрымку і адабрэнне П. Чайкоўскага, А. Рубінштэйна, М. Рымскага-Корсакава.

Працягваючы традыцыі андрэеўскага аркестра, развітыя вядомымі балалаечнікамі - віртуозамі Барысам Траяноўскім і Мікалаем Осіпавым, сёння з поспехам гучаць у Ленінградзе-аркестр рускіх народных інструментаў імя Андрэева, у Маскве — аркестр імя Осіпава і аркестр народных інструментаў Усесаюзнага радыё і тэлебачання.

Але вельмі рэдка можна пачуць у нашы дні ансамбль балалаек у яго першапачатковым складзе, для якога ствараў свае першыя вальсы «рускі Штраўс» (так прэса таго часу называла В. Андрэева), паклаўшы пачатак ансамблеваму музыцыраванню на балалайках.

А мінчане — могуць...

На сцэне унікальны па сваім складзе ансамбль — актэт балалаек. У ім прадстаўлена ўся «сям'я» балалаек, розных па памерах, назвах і музычным ладзе, пачынаючы ад мініяцюрнай балалайкі пікала і канчаючы вялікай — кантрабасам. Выканаўцы — педагогі Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі і Белдзяржкансерваторыі імя Луначарскага — ставяць перад сабой задачу актыўнай прапаганды рускай і беларускай народнай музыкі, твораў зарубежных і савецкіх кампазітараў.

Ансамблю падуладны творы гераічнага плана, былінна-эпічнага складу, гратэскава - гумарыстычнага характару, пяшчотная руская лірыка. Слухаючы гэты ансамбль, здзіўляешся прыгажосці тэмбраў інструментаў, задушэўнасці і чысціні гучання, тонкай і глыбокай нюансіроўцы, артыстычнасці выканаўцаў. Гэтым ансамбль у значнай ступені абавязаны свайму кіраўніку і выканаўцу на першай балалайцы-прыме Г. Жыхараву, энтузіясту, тонкаму знаўцу традыцый народна-выканаўчага мастацтва, яркаму інструментоўшчыку амаль усяго рэпертуару актэта.

Пра шырыню творчых інтарэсаў ансамбля балалаек сведчыць і праграма апошняга канцэрта калектыву. Адкрываецца яна аркестравай сюітай «8 рускіх народных песень для аркестра» А. Лядава. Цікавая асаблівасць інструментоўкі гэтага твора ў Лядава — вельмі дакладныя, каларытныя тэмбравыя адценні ў залежнасці ад характару і назвы п'есы — захаваліся амаль цалкам пры пералажэнні сюіты для актэта балалаек.

Поўнаму раскрыццю аўтарскай задумы ў п'есах былінна-эпічнага характару «Старадаўні верш» і «Быліна аб птушках» садзейнічае выразнае, як кажуць, выпуклае гучанне басовай і кантрабасовай балалаек (В. Шчарбак і В. Утгоф). Нумары сюіты, прасякнутыя народна-песенным лірызмам — «Працяжная» і «Калыханка», якія нагадваюць па гучанні шматгалосае харавое спяванне, запомніліся цёплым, аксамітным гучаннем балалаек секунды і альта (Б. Мацкевіч і Л. Гніламёдаў). Гумарам, весялосцю і казачнай фантастыкай перапіваюцца «Танцавальная» і жартоўная «Я з камарыкам танцавала», дзе маляўніча-выяўленчыя інтанацыі даручаны балалайкам-прымам (Г. Жыхараў і Т. Шафранава), а мудрагелістыя ўпрыгожанні драўляных духавых інструментаў імітуюцца ў актэце гучаннем балалаек кварты і пікала (А. Лабкова і Л. Шандрык). «Карагодная», якая заключае сюіту, прагучала ў добрым тэмпе. Гукавая палітра лядаўскага опуса набыла ў актэце балалаек непасрэднасць свежай афарбоўкі.

---

БЕЛЫЯ СНЫ ПАМОРА

Віктар КАРАМАЗАЎ

# ПАНЬГОМА

Ураині, прачнуўшыся, гаспадара ў хаце я не заспеў. Спачатку падумаў, магчыма ён не вяртаўся яшчэ з мора, як паплыў па дзяўчат з вечара, ды Марыя Антонаўна, ляскаючы гаршчэчнікам у печы, сказала, што быў, начаваў, ранічкай паплыў вымётваць невад.

Я памыўся сцюдзёнай паньгомскай вадою, паснедаў ружовымі падсмажанымі сігамі і гарачым чаем — падаўся на вёску.

Вялікае сонца стаяла над морам, і ўся Паньгома купалася ў ружовай ранішняй смузе. Холадна блішчалі шыбы, дахі, валуны і скалы, сеці на платах, гэтак жа молада блішчалі старыя драўляныя тратуары — яны ляжалі ўсюды, куды вокам ні кінеш, вакол хатак і свірнаў, хлявоў і лазняў, вялі па вуліцах і да ракі ад кожнага ганка. З-за рэчкі, апярэзанай пахіленым драўляным мастом, вёска ў камянях выглядала надзвычай таямніча і прыгожа, нагадваючы асветленую каляровымі агнямі рампы тэатральную дэкарацыю: па-свойму адкрытая і блізкая, у той жа час дасціпна схаваная ад вока і ветру. Асабліва цікава параскідала маленькія, бы ластаўчыны гнёзды, лазні, пазашывала іх у расколіны скал, пад камяністымі рачнымі берагамі. У каторай з гэтых лазняў было тры сцяны, у каторай зусім дзве, астатнія — самі скалы.

Рукамі-нагамі чапляючыся за вострапікія каменныя маналіты, я таксяк спусціўся ў бухтачку, адкуль учора выпраўляўся на сігоў і куды потым



Даніла Якаўлевіч — старшыня калгаса «Беламорскі рыбак».

здабычліва вярталіся назад, асцярожна, скачучы з каменя на камень, прабраўся да стаянкі аграмадных дор, чалавек на дзесяць кожная. Яшчэ большыя доры, падобныя на казачныя рускія пірогі з высока ўздзёртымі і закручанымі ў лебядзіныя шыі насамі горда стаялі на якарах у самым вусці Паньгомы, на выхадзе ў мора — у бухце ім і месца не хапіла б развярнуцца.

У канцы вёскі бераг ніжэў, скала канчалася, пачынаўся нізкі пясчаны адхон. На пяску валяліся выкінутыя морам паплаўкі ад невадаў і сетак, шкляныя і берасцяныя кухтылі. Тут былі могілкі Паньгомы: крыжы, крыжы, крыжы... Нават завельмі для невялічкай вёскі. Ля многіх магіл прыleглі знявечаныя векам і штормамі доры, баркасы. Вось дзе прыгадваліся словы Івана Канстанцінавіча: «Тут нашы песні і нашы магілы...» Без усякай аснасткі, яе даўно пазрывала вадою і ветрам, з прабітымі днішчамі і бачынамі. Многія баркасы і доры ўжо грунтоўна пазасыпала зямлёю, тырчалі дзе нос, дзе карма. З цягам часу судны паморскія таксама ішлі ў магілы, але да канца заставаліся вернымі паснуўшым рыбакам — паміралі побач з імі.

Ля аднаго з баркасаў, разваленага на дзве палавіны, сядзеў аграмадны стары сабака: рабы, з белымі нагамі. Задумлівыя вочы мудра глядзелі ў мора, слязіліся, штосьці чакалі адтуль, з далечы.

Вецер з мора пёр мацнейшы, чымся надоечы, золкі, аж апякаў твар. Я адвярнуўся ад яго, ад мора, ад сабакі і толькі цяпер заўважыў: вёска стаяла глухімі сценамі да мора, таксама адвярнуўшыся ад яго, ганкамі і вокнамі — на рэчку ды лес. Паўз глухія сцены сохлі прывезеныя з начных тоняў сеткі, стаялі высокія, роўна са стрэхамі, сціртны дроў — ужо цяпер, яшчэ лежачы на дварах, яны засланялі паморскія хаты ад лютых вятроў.

Паўз тую ж ваду я павярнуў да старшынёвага дома, не дайшоў да яго, спыніўся перад суседскім свірнам: здалося, што туды ўвайшла знаёмая па ўчарашняй вечаровай тоні рыбачка Аляксандра Яфімаўна. Свіран нават не стаяў, нейкім цудам чапляўся за камяні па-над самай вадою, дзверы былі адчыненыя. Я падышоў і зазірнуў за вушак: ля парога, пры святле, з аднаго боку сядзела Аляксандра Яфімаўна, з другога — Грыгорый Паўлавіч, а за імі да самай страхі — сіняя, месцамі чорная, сівая і зялёная марская трава анфельсія. Штармавое мора выкідала яе са дна на бераг і калі супакойвалася — жанчыны збіралі ў старыя сеці. Калгасу даводзіўся план не толькі на рыбу, на траву таксама, не толькі на анфельсію, для харчовай прамысловасці, яшчэ і на медыцынскія травы — таксама дары мора. Шторм быў ворагам рыбакоў і сябрам зборшчыкаў траў — не даваў рыбы, але даваў траву. У кожным паньгомцы жыў і рыбак і зборшчык травы, таму штармы тут і чакалі і праклінаді адначасова.

— Сейгод каторa трава прыб'ецца, тую не возьмеш,— кажа Аляксандра Яфімаўна.— Мароз яе падбярэ, не мы. Што за лета сабраў, хутчэй дагледзь ды здавай, не памарозь.

— Зборы, вядома, канулі. Да вясны,— падтрымаў гаспадар, вышчыкваючы з мяккіх барадак водарсцяў каменьчыкі.— Раней яе за мяжой куплялі. Вось сваю знайшлі.

— Такая рэдкасць?

— Без яе і цукерку не склеіш. У хлеб дабавіш — чарства не бярэ. Занятак больш для жанчын. Рыба — справа іншая. Там хоць смерць на пяце сядзіць, ды ёсць што спомніць.

— Во калупаемся і спамінаем. Працягвай, Грыгорый...

Я зразумеў, што з маім прыходам абарваўся ланцужок нейкай размовы, успаміну, цікавага ім абодвум, і хутчэй, пакуль гэты ланцужок не страціўся, папрасіў таксама:

— Расказвайце, Грыгорый Паўлавіч.

— Што расказваць?

— Ну, як ты з фінамі балакаў,— усміхнулася жонка.

— Што балакаў? Калі спамінаць, дык спачатку. Во і чалавеку ясней будзе. А то... Пры чым тут фіны?

— Дык спачатку, — пагадзілася Яфімаўна.

Стары памаўчаў, пачысціў і адкінуў яшчэ некалькі шаўкавістых барадак водарасцяў, узяў у рукі чарговую, утаропіў у яе вочы, але рукі ўжо не варушыліся — пачаў:

— Трыццаць сёмы год... Звечара выплылі мы ў Баранцава па добрай пагодзе. Выкінулі ярусы, сагрэлі ў ёле на камінку чай, папілі, леглі спаць. Маладыя былі, здаровыя. Заснулі быстра. Прачнуліся — шторм. Калі пілі чай ды клаліся, гайдала вакол нас іншыя пасудзіны, цяпер — нікога блізка. Усе пакідалі ярусы, павыскаквалі на бераг да становішчаў. Адны мы засталіся. Пацягнулі свой ярус, каб з пустым не вяртацца, — цяжкі, на кожным кручку вялікая траска. Цягнем, хоць шторм. Ёлка наша невялічкая, усю траской завалілі. Тут яшчэ адзін ярус — кухтылі падкідае. Давай яго цягнуць. Не дайшлі да становішча кіламетры два — вецер пачаў прыпадываць. На бераг позна, кладземся на хвалю, ды ў мора. А вецер — пабярэжнік, на вачах мяняецца, ужо бура са снегам. Усё кругом адразу збялела, становішча на гарызонце сцёрлася, быццам яго і не было. Адна хваля цераз нас, другая пад нас, трэцяя зноў цераз нас. Сабраліся на насу ёлкі, абняліся, развіталіся... Дваццаць пятага мая было гэта. Снег з лютым ветрам. Перакуліла нас дагары, параскідала. Вада — малако кругавое, белыя валы ў вачах. Чатыры гадзіны кідала па тым ледзяным малацэ... Вось тады мяне і падабраў фінскі матабот. Атагрэўся спіртам ды чаем, пачаў балакаць з фінамі. Ат... Якое там балаканне? Пасля было... Як заснеш дык і бачыш малочны шторм, валы белыя бягуць, бягуць... А на цела, чуеш, як хто жалезныя абручы набівае...

Грыгорый Паўлавіч замоўк, пачаў перабіраць траву. Паспрабуй зразумець яго пачуцці. Для гэтага, мабыць, трэба, як ён гадоў шэсцьдзесят пражыць на моры ў рыбацкай робе, сотні разоў адчуваць на сваёй спіне штормы, дзесяткі разоў гінуць і выжываць, ісці на дно марское і кожны раз неверагодна якімі сіламі ўсплываць са дна. Такое цяжка, немагчыма зразумець не памору.

Міма дзвярэй свірна нячутна праплыла лодка, заваленая сецянымі цюкамі з анфельсіяй. Гаспадыня падхапілася да дзвярэй:

— Ваня, здаваць вязеш?

— Ага, Яфімаўна.

— Ці старшыня на складзе?

— Кажуць, прыплыў. Па зайцоў у Кузёму збіраецца.

— А-а!..

— Дзмітрыеў, значыць, вярнуўся? — перапытаў я.

— Кажа вось... Па школьнікаў паплыве. Сваёй школы няма, вёсачка маленькая, усе там вучацца. І жывуць там у інтэрнаце. У суботу на нядзельку прыязджаюць.

— Мне ён і трэба,— успомніў я. — Пакуль не паплыў.

— Заходзьце ж. Яшчэ раскажу,— кінуў Паўлавіч.

— Забягу...

Дома Данілы Якаўлевіча на аказалася. Я прысеў на лаве ля акна, не ведаючы, ісці да яго ў бухту ці чакаць тут. Супакоіўшыся, прыгадаў Улы і Мары, з адчуваннем нейкай віны сваёй падумаў, што пара быць у іхняй Вольніцы, як абяцаў. Значыць — ехаць. Сёння ж. Усё роўна ніхто ў нядзелю не паплыве вымётваць невады, усе пад сваімі стрэхамі будуць корпацца з травою, дрывамі, дзеці едуць — клопат у кожным доме сустрэць іх, абмыць, абшыць, накарміць... Трэба ехаць, не назаляць людзям лішняга. Сустрэлі, прывецілі, уважылі — дзякуй. І Даніла Якаўлевіч якраз плыве ў той бок, у Кузёму, падкіне...

Я падняўся з лавы, каб развітацца з Марыяй Антонаўнай.

— Ужо? Гэтак мала і пабылі?

— Нельга заседжвацца.

— У Мінск ужо?

— Яшчэ ў Калевальскі раён.

— Ой, далёка,— пляснула яна ў далоні і тут жа, нечакана, як спахапіўшыся, прызналася: — Я ж беларуска таксама. З-пад Полацка.

— Няўжо? Беларусаў шмат вакол Анежскага возера, дзе багата лясоў. У Пудажскім раёне праз аднаго. Куды не сунешся — усюды зямляк. Але каб тут, у камянях Белага мора?..

— Некалькі гадкоў мне было, бацька прывёз сюды ўсю сям'ю Там і радні нікога не засталося. Усе тут во...

Падышла да акна, зірнула у той бок, дзе за сціртаю колатых дроў віднеліся магільныя крыжы.

— Куды я цяпер адсюль паеду...

Вецер з мора мацнеў. Хваля за хваляй, вал за валам каціліся ў бераг. Яны былі яшчэ дробныя, зусім не грозныя, асабліва памору, аднак і гэты рух стыхіі нагадваў рух людскога жыцця, наогул жыцця. Хвалі нагадвалі людзей, валы — пакаленні, як людзі і пакаленні, яны нараджаліся ў нетрах вечна жывой стыхіі, прыроды, каціліся да свайго берагу, выконваючы паў-



Драўляныя сцежкі вядуць да кожнай хаты...

Заканчэнне. Пачатак у мінулым нумары.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

## У СВЕЦЕ МУЗ

Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА



У гэтым праекце нешта ёсць...



Сваю індывідуальнасць я табе не пакіну...



Цяпер такіх рам не робяць...




Я АТРЫМАЎ кватэру на трэцім паверсе ў новым цудоўным доме. Усе знаёмыя зайздросцілі мне і, агледзеўшы пакоі, літаральна млелі ад захаплення, калі я выводзіў іх на балкон. Прама перад домам кацiла свае хвалі рака. Стоячы на балконе, кожны адчуваў сябе, па меншай меры, капітанам карабля.

— У вас тут сапраўдны курорт, — гаварылі жанчыны. — А прыгажосць!.. А паветра!..

— Вось шанцуе каму: можна з балкона спінінг закідаць, — заўважалі мужчыны і выкідалі недакуркі на зялёны берагавы адхон. — Можа памяняемся на кватэры?

Калі, урэшце, усе турботы з перасяленнем былі завершаны, мы адсвяткавалі ўлазіны. У першы ж выхадны дзень жонка аб'явіла, што будзе мыць бялізну, а развесіць для прасушкі няма дзе.

— Каб ты быў гаспадаром, дык зрабіў бы, як усе—на балконе прымацаваў бы планкі, а на іх расцягнуў дрот.

— Як гэта? — перапытаў я. — Гэта ж непрыгожа.

— Выйдзі, паглядзі, як суседзі зрабілі.

Калі я выйшаў на балкон, то ўбачыў, што ўсе суседнія балконы пераабсталяваны ўжо ў сушылкі. Перад кожным з іх тырчаць шасты з нацягнутым дротам. Там-сям на ветрыку трапечуцца дзіцячыя штонікі, прасціны, фартухі. Тым, хто глядзіць з боку ракі на наш дом, відаць, здаецца, што гэта сігнальныя сцягі розных колераў, якія гавораць: «Тут жывуць людзі з усімі людскімі клопатамі»...

Я ўзяўся за работу, і праз гадзіну прапанаваў жонцы павесіць бялізну. Развешваючы ручнікі і накідкі, я чаргаваў светлыя і цёмныя колеры, каб выгляд нашага балкона быў больш эфектны. Затым мы накіраваліся ў тэатр.

У час спектакля жонка не-не, ды штурхне мяне пад бок.

— Ведаеш, хвалююся я, што вецер можа паскідаць нашу бялізну...

З тэатра мы вярнуліся позна і адразу ж кінуліся на балкон. Я здымаў бялізну, клаў яе прама на руку і адчуваў, што яна нейкая ліпкая і сырая. Калі ж я ўвайшоў у пакой, жонка ціха войкнула і закрыла твар рукамі. Я кінуўся да яе, але яна адмоўна закруціла галавою і закрычала:

— Што ты нарабіў?!

Я агледзеўся, прывыкаючы да пакаёвага святла, і толькі цяпер заўважыў, што рукі мае і бялізна ў плямах зялёнай маслянай фарбы.

— Ой, матухна, — запрычытала жонка. — Нічым жа і не адмыеш... Заўтра ж знайдзі гэтых падшыванцаў — толькі дзеці такое могуць зрабіць.

Я выйшаў на балкон і пагразіў зялёным кулаком у цемру, а потым гадзіны са тры адціраў газай фарбу з рук і новага вячэрняга касцюма.

Устаў я назаўтра на досвітку і адразу ж зрабіў адкрыццё: бялізну сапсавалі не дзеці, а наш сусед Жучкін з чацвёртага паверха. Ён, нягоднік, вырашыў перафарбаваць свой балкон. Я узняў суседа з ложка.

— Вы што гэта ўчора рабілі? — падступіўся я да Жучкіна.

— Фарбаваў балкон, — усміхнуўся ён, — мне колер жоўты не падабаецца.

— Дык жа бялізну маю ўсю залілі фарбаю!

— Я не вінаваты, што вы жывяцё ніжэй. І вось што я яшчэ вам скажу — гэта была толькі грунтоўка, а афарбоўку я пачну ў другі раз! — Жучкін ляпнуў дзвярыма перад маім носам.

— Ну, чакай, я табе яшчэ дапяку, нягоднік! — шапнуў я, вяртаючыся на свой паверх.

Амаль месяц я абдумваў план помсты. За гэты час Жучкін яшчэ раз абліў нашу бялізну фарбай і тры разы вытрушваў нам на галовы свае дываны.

Рашэнне прыйшло нечакана. У адну з начэй, калі Жучкіны дзеля забавы перасоўвалі мэблю над нашымі галовамі, жонка сумна сказала:

— Слухай, а што, калі нам памяняць кватэру?

— Чакай, гэта ж ідэя! Над нашым суседам жывуць старыя — ім цяжка хадзіць на пяты паверх. Памяняемся з імі кватэрамі, а ўжо там я зверху дапяку гэтага нягодніка. І падзецца ён нікуды не падзенецца — у нашым доме ўсяго пяць паверхаў. Хіба што будзе на дах лезці, каб нашкодзіць нам.

Назаўтра справа была ўладжана: старыя з пятага паверху перайшлі на трэці. Яны са слязьмі на вачах дзякавалі за высакародны мой учынак і нават змясцілі ў насценгазеце домакіраўніцтва заметку пад назвай: «Калі побач сябры».

Сусед-нягоднік Жучкін спахмурнеў і неяк вылiняў. Ён ужо болей не грукаў па начах, таму што мы з жонкай самі кожную ноч перасоўвалі мэблю і тупалі, спрабуючы трываласць падлогі. А неяк у нядзелю я заўважыў, што Жучкін вывесіў бялізну, і адразу ж пачаў перафарбоўку балкона. Калі ўзлаваны Жучкін загрукаў у мае дзверы, я адказаў яму:

— Не хвалюйцеся — гэта толькі грунтоўка, а афарбоўку я пачну якнебудзь у другі раз. Наогул, чаго вы да мяне прычапіліся? Я ж не вінаваты, што вы жывяцё паверхам ніжэй...

Жучкін зусім змяніўся. Пры сустрэчах ён сарамліва апускаў галаву і бачком праскокваў паўз мяне. Бялізну ён пачаў сушыць толькі ўначы. У такія ночы Жучкін выносіў на балкон раскладушку і сумна ўглядаўся ў цемру над сабою: баяўся, каб я не пачаў чарговую афарбоўку. Нават дываны Жучкіны перасталі трусіць з балкона, відаць, прыдбалі пыласос.

## МІМАХОДЗЬ

**Мікола НАВІЦКІ**

*— Недастаткова быць добрым самому. Трэба яшчэ, каб іншыя былі дрэнныя,—сказаў філантроп.*

□

*Яго ўчынкі сведчылі пра яго абмежаванасць. Але якой шматграннай яна была!*

□

*Тэлебачанне—дзіця нашага часу. Можа, таму яму так шмат дораць.*

□

*Ён дарэмна шукаў у законе аб ахове працы забароны ламаць галаву ў час працы.*

□

*Дурні—не маманты, яны не вымiраюць.*

**Ул. КУЧАРАЎ**

*Безгалосы тэнар застаўся ў тэатры—спеўся з дырэктарам.*

□

*Прачытаўшы новыя вершы паэта-песенніка, кампазітар вырашыў напісаць «Песню без слоў».*

□

*Лектар-сіноптык нават пра яснае надвор'е гаварыў туманна.*

□

*Кніга нагадвала дыню: у ёй было 95 працэнтаў вады і 5 працэнтаў цукру.*




ЖОНКА ў мяне была да тэхнікі ну зусім раўнадушны чалавек. І я вырашыў здзівіць яе хоць бы сваімі дасягненнямі ў майстэрстве гуказапісу. Я падключыў магнітафон да тэлефона. Зманціраваў тайком. «Няхай, — думаў, — гэта будзе для яе прыемным сюрпрызам». Жаданы момант наступіў хутка. Зазваніў тэлефон. Жонка падышла, зняла трубку. Я ўключыў магнітафон. Размова была кароткая:

— Добрага здароўя... Ага... Не... Безумоўна... Ага... Ага... Я таксама...

Прадчуваючы асалоду ад таго, як здзівіцца мая палавіна, я ледзь дачакаўся, калі яна паклала трубку.

— Ну, Машанька, — кажу, — цяпер я пакажу табе фокус. Зараз мы пасмяемся... З кім гэта ты размаўляла?

Жонка чамусьці насцярожылася:

— З Наташкай. А што?

Маўчу, перамотваю стужку. Уключаю — і вушам не веру: Наташка, сястра маёй палавіны, агукаецца прыемным мужчынскім барытонам. Размова выглядала так:

— Машунчык? Добрага здароўя, дарагая!

— Добрага здароўя.

— Твой дурань дома?

— Ага.

— Значыць, сёння нічога не выйдзе?

— Не.

— Ты таксама, спадзяюся, засумавала па сваім зайчыку?

— Безумоўна.

— Што ж, будзем спадзявацца на заўтра?

— Ага.

— Ты мне пазвоніш, калі прасветляцца абставіны?

— Ага.

— Ну, не буду выклікаць падазрэнняў. Да пабачэння! Цалую.

— Я таксама...

...Магнітафон я пакінуў жонцы. На ўспамін.

Пераклаў з рускай мовы П. МАРЦІНОЎСКІ.

## З ПАДСЛУХАНАГА

*— Дачулася, што ты хворая. Прыйшла праведаць.*

*— Дзякуй, суседачка.*

*— Ганначка, выручай, пазыч грошай.*

□

*— Няўжо Янук не будзе жаніцца?*

*— Можа па маці пайшоў. Яна ж таксама была незамужняй.*

□

*— Замужам усяк бывае.*

*— Вядома, калі ад радасці танцуеш, а калі з вераб'ямі пад страхою начуеш.*

Запісаў А. ШОЦКІ.

## ГАВОРАЦЬ ДЗЕЦІ

### ХАЧУ ПАЛЯТАЦЬ...

**— Заўтра ў нас лятучка,—сказаў дома супрацоўнік газеты.**

**— Вазьмі мяне з сабой, тата,—папрасіла Ларыса.—Я таксама хачу палятаць.**

### ДЗЕ ПРЫВІТАННЕ?

**Двухгадовую Іну маці адпраўляе да бабулі і кажа:**

**— Ты ж, дачушка, не забудзься, перадай прывітанне дзеду.**

**— Мама, а дзе яно!**

### НЕ ХАЧУ БЫЦЬ ДАРОСЛАЙ

**— Не хачу быць дарослай,—сказала Ларыса.**

**— Чаму!**

**— Дарослыя—хлусы.**

### ДОБРА, ШТО КУПІЛІ...

**Чатырохгадовая Люда ў дзень свайго нараджэння сказала бацькам:**

**— Добра, што вы мяне купілі. А то прыйшоў бы мой дзень нараджэння, а мяне—не было б.**

Запісаў М. ВАСІЛЕЎСКІ.

**Віктар ШАЎЧЭНКА**

### ЗРАЗУМЕЎ

— Дружбак, не куры ты,
Дыхаць жа цяжка!
— Ды вы не хвалюйцеся:
Я не ў зацяжку!

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 07604

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.